

„Людзьмі звацца!“
Янка Купала

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 15 чэрвеня 1990 г. № 24 (3538) ⊙ Цана 10 кап.


## У НУМАРЫ:



# З народам уваскрэсну

Мы ішлі сцежкамі, па якіх калісьці хадзіў ён. Мы стаялі ў старым парку, у якім некалі стаяў ён. І не адчувалі сябе гасцямі пад святым небам гэтай святой зямлі.

Вёска Цяпіна святкавала свой дзень нараджэння. Колькі споўнілася ёй? Гавораць, 600 гадоў. Незвычайны юбілей у незвычайны час. А яму, чыё жыццё пачыналася і скончылася тут, было б у гэтыя дні 450... Яго равеснікамі маглі быць гэтыя палі і лясы, якія вечна расціліся тут, ля вёскі Цяпіна, ціхай беларускай вёскі, з працалюбівымі людзьмі, што нараджаліся, раслі, рабілі свае справы і, калі трэба было, браліся за зброю, каб адстаяць сваю зямлю, сваю волю.

**Ніна КІНДЗЯЕВА,** сакратар Чашніцкага райкома партыі:— Мы святкавалі дзве даты. Свята нараджэння вёскі Цяпіна і юбілей нашага знакамітага земляка Васіля Цяпінскага. І яны арганічна зніталіся, бо не было б свята вёскі, калі б на гэтай зямлі не нарадзіўся Васіль Мікалаевіч Цяпінскі.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ:** — На гэтай зямлі кожнаму з нас давялося сутыкнуцца з самой гісторыяй, і паўстала яна перад намі ў вобразе Васіля Цяпінскага. Хочацца, каб свята стала традыцыйным.

...У вёсцы Цяпіна — урачыстасці. Нас сустракаюць сотні людзей у яркіх нацыянальных касцюмах. Хлеб-соль падносяць пісьменнікам з Віцебска і Мінска.

Доўгая, як дарога жыцця, вуліца і на ёй кароткія прыпынкі. Тут жывуць тыя, хто заслужыў асаблівую павагу — ветэраны вайны і працы, ганаровыя людзі сяла. А на самым ускраі вёскі будынак школы і на яе сцяне цяпер заўсёды будзе нагадваць удзячным нашчадкам аб знакамітым продку мемарыяльная дошка, якая адкрыта ў гэты дзень: «У вёсцы Цяпіна нарадзіўся і жыў беларускі кнігавыдавец Цяпінскі (Амельяновіч) Васіль Мікалаевіч (1540—1604)».

І зноў дарога, як працяг дарогі яго жыцця. І можна лёгка сабе ўявіць, як праходзіў ці праязджаў па ёй В. Цяпінскі. Ён спяшаўся туды, да свайго дома, да сваёй сялібы, дзе сёння сустракаюць нас пустыя ўзгоркі і рэшткі старога парку. Пра мінулае нагадвае спецыяльна ўстаноўлены вялізны камень з дошкай-надпісам: «На гэтым месцы ў 16—17 стагоддзях была размешчана сяліба беларускага асветніка Васіля Мікалаевіча Цяпінскага». А каля невялікай эстрады ўжо чакаюць землякі вялікага асветніка. Тут сваё слова, прысвечанае яму, гавораць пісьменнікі Уладзімір Паўлаў, Генадзь Пашкоў, Уладзімір Папковіч, Алесь Жыгуноў, Анатоль Жалязоўскі...

Барыс Беляжэнка расказвае



пра жыццё і справы, пра слаўную спадчыну, якую пакінуў на зямлі В. Цяпінскі. І ў расказе гэтым — асаблівыя любоў і замілаванне, пісьменнік даўно збірае ўсё, што звязана з жыццём і творчасцю В. Цяпінскага. Гэта дзякуючы яму, Б. Беляжэнку, прыўзнята заслона над жыццём славутага земляка. Ды і само свята стала магчыма дзякуючы яго пошукам і знаходкам.

«З народам я загіну — з народам і ўваскрэсну» —ззяюць над эстрадай словы В. Цяпінскага побач з яго партрэтам. Самадзейныя выканаўцы, мясцовыя паэты і паэткі спяваюць беларускія народныя песні, чытаюць свае вершаваныя радкі.

Цікавую выставу старых кніг і рэдкіх фотаздымкаў прывезлі з Віцебска работнікі абласной бібліятэкі Л. Гудзялёва і Н. Курсо, супрацоўнікі літаратурнага музея С. Казлова і А. Пасюціна.

**Уладзімір ПАПКОВІЧ:** — Мы адвыклі ўжо ад такіх святаў. А як патрэбны яны нам, асабліва моладзі, каб ведала яна сваё мінулае, каб шанавала продкаў сваіх, сваю культуру.

...Першае свята на радзіме В. Цяпінскага. Першыя кветкі і даніна павагі за стагоддзі. Пачынаецца ў яго новае жыццё для роднага народа, для нашчадкаў.

**Давід СІМАНОВІЧ.**

г. Віцебск.

*Думка чытача*

# Вось вам і «экстрэмальная сітуацыя»!

Гэты белтаўскі матэрыял маланкава абляцеў старонкі некаторых рэспубліканскіх газет. Яго надрукавалі «Вячэрні Мінск», «Чырвоная змена», «Звязда». «Звязда» нават змясціла яго пад рубрыкай «Экстрэмальная сітуацыя».

Пра што ж ідзе размова? Пра стыхійнае бедства? Пра чарговае звярынае ашчэрванне рэкету ці гандлёвай мафіі? Памыляецеся! Гаворка ідзе пра сітуацыю... «Калі бастуюць выдатнікі...» — так называецца згаданая мною вышэй «белтаўская маланка». Яе аўтары— У. Левін і А. Талочка. Пазнаёміўшыся з іх тварэннем, міжволі адзначыш: высокакваліфікаваныя, хвацкія прафесіяналы. Не проста выявілі «гарачую» кропку ў грамадстве, а нават паспелі яе даволі выразна сфатаграфаваць. Глядзі, чытач, любуйся! І, як кажуць, матай на вус, а раптам — спатрэбіцца...

Сенсацыяй патыхае ўжо сам пачатак рэпартажу: «Выпускнікі Мінскага інстытута культуры, якія атрымалі накіраванне ў творчыя калектывы рэспублікі, напэўна, не пачнуць працаваць. Справа ў тым, што палавіна групы дырыжораў акадэмічных хораў на выпускным экзамене па беларускай літаратуры атрымала нездавальняючыя ацэнкі, а група харэографаў наогул адмовілася яго здаваць. Студэнты аб'явілі папераджальную забастоўку і, калі не будуць задаволены іх патрабаванні, пагражаюць галадоўкай. Не супраць беларускай мовы і літаратуры пратэстуюць яны, а супраць таго, як выкладаецца гэты прадмет у інстытуце...».

Ужо ў гэтым першым абзацы канкрэтны факт з зайздроснымі цыркавымі здольнасцямі перакручваецца з ног на галаву. Дзе раней былі шаноўныя студэнты? Чаму яны не баставалі супраць кепскага выкладання прадмета ў час навучальнага года? Няўжо яны не ведалі, што на экзаменах не выкладаюць навуку, а выяўляюць пазнанні ў ёй?

Далей у рэпартажы падаюцца найбольш важкія аргументы забастоўшчыкаў. Якія яны, мяркуйце самі. Уладзімір Фарамонаў, дырэктар студэнцкага клуба: «Забастоўку пачалі выдатнікі, сярэдні бал якіх ад 4,2 да 4,7». Аказваецца, да выдатнікаў залічаюцца не тыя, хто вучыцца на круглыя пяцёркі, а ў каго сярэдні бал чатыры і нават ніжэй, як, напрыклад, у адной маладой маці, сярэдні бал якой складаў усяго 3,44. Што ж, усім вядомы ўзровень падрыхтоўкі нашых студэнтаў. І гэта не здзіўляе. Здзіўляюць заявы будучых работнікаў культуры, накшталт заявы студэнта Міхаіла Малікіна: «Мы падлічылі: для таго, каб толькі прачытаць праграмныя творы, трэба адольваць у дзень больш ста старонак... А наша ж асноўная прафесія — спевы і харэаграфія».

На сумныя думкі наводзіць белтаўскі рэпартаж. Галоўны вывад, які можна зрабіць з яго — «Беражыцеся, выкладчыкі роднай мовы і літаратуры! І не ўздумайце выяўляць сваю патрабавальнасць, інакш...» А заадно журналісты навучаюць сённяшніх і будучых студэнтаў, як можна асяджаць Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы ў рэспубліцы, калі не хочацца забіваць сабе галаву нейкаю там беларускаю моваю ці літаратураю...

**П. ЛУБОЎСКІ.**

г. Мінск.

# Германія ў Мінску

Сёння і з боку Захаду, і з савецкага боку адчуваецца ўзаемная цікаўнасць да культурных здабыткаў адзін аднаго. Прыемна распачаць нататку аб выставе «Скульптура Федэратыўнай Рэспублікі Германія 1949—1989 гг.» з такой канстатацыі. І пра гэта сведчыць сама выстава, якую складаюць творы з фондаў музея Вільгельма Лембрука ў горадзе Дуйсбургу. Яна адлюстроўвае асноўныя этапы развіцця скульптуры ў ФРГ. Але этапы гэтыя ўвогуле характэрныя для выяўленчага мастацтва Захаду. Напачатку адыход ад фігуратыўнай пластыкі да абстрактных форм. Потым асэнсаванне самой рэчаіснасці, прадметнага свету як твора мастацтва (любы прадмет, які мастак вылучыў з асяроддзя і паставіў на пастамент ці змясціў у раму, перастае быць тым, чым быў раней — становіцца творам). І нарэшце — мастацтва ўжо не як твор, а як акцыя, дзеянне. Тут роля мастака чымсьці нагадвае ролю тэатральнага рэжысёра.

Асобным раздзелам на выстаўцы прадстаўлены творы Ёзафа Бойса на экалагічную тэму (зразумела, што тут тэма выяўлена зусім не так, як у звыклай нам «рэалістычнай» скульптуры).

Выстава скульптуры Федэратыўнай Рэспублікі Германія ўзбагаціць нашых гледачоў, у тым ліку і мастакоў, іншым поглядам на свет, паспрыяе ўсталяванню трывалых культурных кантактаў паміж Беларуссю і Германіяй.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

# А КАРАБЕЛЬ ПЛЫВЕ...

**Ад нашага карэспандэнта ў парламенце**

ЯКОЙ УСЕ-ТАКІ ёмістай можа быць нязначная дэталь, якім красамоўным — нюанс! Калі, вядома, не абмінуць іх увагай, пераадолець прызвычаенасць, прыщярпеласць. Ну вось, напрыклад...

Тэлезастаўка чэмпіянату свету па футболу перапыняе трансляцыю сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, літаральна на паўслове абрываючы выступленне народнага абранніка. Працяг — праз дзве гадзіны. Можна, праўда, суцяшаць сябе тым, што на гэтыя дзве гадзіны членства Беларусі ў ААН не спынялася, але...

З іншага боку, ці не значыць гэта, што дзейнасць нашага парламента сёння з'яўляецца хутчэй відовішчам для гурманаў ад палітыкі, якіх, безумоўна, значна менш, чым аматараў футбола?

Некарэктна? Згодзен. І ўсё ж, маю падазрэнне, што калі справы на сесіі будуць разгортвацца ў тым накірунку, які намеціўся, парламентарыі і сапраўды атрымаюць магчымасць «нармальна працаваць». Ніхто не будзе замінаць, плошча *Леніна* «самаачысціцца» — у лясах выспяваюць ягады, гуркам на дачах патрабуецца шчодры паліў, а футбольны чэмпіянат абяцае захапляльную інтрыгу. Жыццё ёсць жыццё, карабель плыве. У залежнасці ад тэмпераменту хтосьці назаве гэты карабель «Тытанікам», хтосьці баржой... Відавочна, аднак, што яго курс і нават лёс вызначаецца не ў кают-кампаніі. А што чуваць з капітанскага мосціка? «Лева руля», «права руля»?

МІНУЎ МЕСЯЦ, як працуе першая сесія Вярхоўнага Савета БССР XII склікання.

«Дванаццаты раз збіраецца вышэйшы орган дзяржаўнай улады Беларусі, — піша ў «ЛіМ» мінчанін **М. Аўсіевіч**.— Але за ўсю гісторыю мы ўпершыню па-сапраўднаму былі зацікаўлены ў яго складзе, маглі асабіста ўплываць на выбар дэпутатаў. На жаль, не заўсёды былі прынцыповыя, каб у парламент трапілі лепшыя прадстаўнікі народа. Паўплывалі і наша невысокая палітычная свядомасць, і недасканаласць закона аб выбарах.

І ўсё ж сёння мы назіраем зусім іншую сітуацыю, чым у папярэднія гады. Упершыню падзеі на сесіі Вярхоўнага Савета БССР разгортваюцца не па загадзя зацверджаным сцэнарыі. Пасяджэнні праходзяць у вострых спрэчках, супрацьпастаўленні поглядаў асобных дэпутатаў і груп, у сапраўднай парламенцкай барацьбе. Побач з добра знаёмымі людзьмі, якія і раней кіравалі намі, мы бачым новых, у асноўным маладых, і вельмі актыўных палітычных дзеячаў. Кампетэнтнасцю і прынцыповасцю вызначаюцца выступленні юрыстаў В. Ганчара і У. Станкевіча, вайскоўца У. Грыбанава, святара В. Радамысльскага, журналіста І. Герасюка, філолагаў П. Садоўскага і Л. Баршчэўскага, гісторыкаў З. Пазняка і В. Голубева, партыйных работнікаў П. Краўчанкі і З. Ломаця...

У нашым становішчы, безумоўна, галоўнае — пачуць ад заканадаўцаў слушныя меркаванні, свежыя думкі, арыгінальныя ідэі, канструктыўныя прапановы. І яны ёсць. На жаль, многія дэпутаты сустракаюць іх у штыкі. Наогул, неардынарнасць мыслення, як паказваюць парламенцкія дэбаты, не ў вялікай пашане. Чамусьці больш каштоўным лічыцца наяўнасць вопыту кіруючай работы.

Тут паўстае пытанне: а ці патрэбен нам усім той вопыт, які прывёў краіну і грамадства да крызісу? Упэўнены, што ад яго трэба адмовіцца назаўсёды, а шукаць новыя накірункі і ў палітычнай, і ў грамадскай, і ў гаспадарчай дзейнасці. Мяркую, што, адкінуўшы стэрэатыпы і амбіцыі, нават самы, як кажуць, кансерватыўны кансерватар знойдзе шмат пазітыўнага ў прапановах сваіх апанентаў.

Будзем спадзявацца на цвярозы розум і чалавечае сумленне ўсіх, ад каго сёння залежыць будучыня Бацькаўшчыны», — завяршае свой ліст М. Аўсіевіч.

На тое самае спадзяюцца і іншыя нашы чытачы, якія, праўда, не заўсёды настолькі памяркоўныя і разважлівыя ў ацэнцы працы нашага парламента. Напрыклад, пенсіянерка **І. Пархімовіч** з вёскі Стары Свержань Стаўбцоўскага раёна піша аб тым, што пасяджэнні сесіі, у прыватнасці, выбары старшынь дэпутацкіх камісій нагадваюць ёй «хутчэй пленум ЦК КПБ, на якім адказныя пасады размяркоўваюцца паміж сакратарамі абкомаў, гаркомаў, райкомаў і г. д. Усё прагрэсіўнае, станоўчае, разумнае не знаходзіць падтрымкі, — працягвае чытачка і задае пытанне. — Адкуль гэты кансерватызм мыслення?»

Не ведаю, што адказаць на гэтае пытанне. Яно, мабыць, рытарычнае.

ЯКІЯ Ж ВЫНІКІ першага парламенцкага месяца? Выбраны Старшыня Вярхоўнага Савета і яго намеснікі. Часткова сфарміраваны Прэзідыум — занята большасць пасад старшынь пастаянных дэпутацкіх камісій. Парламент рэспублікі выказаў свае адносіны да прапанаванай урадам краіны канцэпцыі эканамічнай рэформы, да падзей у Закаўказзі і Сярэдняй Азіі, а таксама намер дэклараваць суверэнітэт Беларусі.

Вось, бадай, і ўсё. Маючы на ўвазе парадак дня сесіі, зроблена пакуль што вельмі мала. Прычым нават самі парламентарыі нярэдка вызначаюць становішча як «крытычнае», «крызіснае».

У чым справа? Чаму, напрыклад, выбары старшынь камісій расцягнуліся на два тыдні?

Прычын, думаецца, некалькі. Адну з іх я назваў бы «структурнай». Мяркую, сама сістэма камісій, іх назвы і колькасць з'яўляецца шлейфам старых падыходаў да парламенцкай дзейнасці, а таксама імкненне ўсё ўнармаваць, раскласці па палічках, паставіць птушачку. Дарэчы, задумваешся і над тым, ці абавязковае сумяшчэнне дзвюх розных, па сутнасці, функцый — старшынства ў камісіі і членства ў Прэзідыуме?

Далей. Выбары маглі б адбывацца больш хутка, мэтанакіравана, калі б ім папярэднічала агульнапалітычная дыскусія, якую, мабыць, трэба было правесці ў першы тыдзень сесіі. Пад час гэтай дыскусіі *абавязкова выявіліся б лідэры*, маштаб асобы, кампетэнтнасць, палітычная пазіцыя якіх не выклікалі б столькі сумненняў сярод дэпутацкага корпуса.

І яшчэ адна прычына. Выбары старшынь камісій ускладняюцца барацьбой, якую толькі з вялікай нацяжкай можна назваць парламенцкай (чаго варты адзін толькі «інцыдэнт з кнопкай»). Як ні дзіўна, але ў дадзеным выпадку сказваецца... адсутнасць фракцый. А раз іх няма, значыць, няма і ўзаемадзеяння паміж імі. Працэс выпрацоўкі кансенсусу надзвычай ускладняецца, усялякія пагаджальныя камісіі губляюць сэнс — каго з кім пагаджаць? Нейкіх аморфных «кансерватараў» і «дэмакратаў», «апаратчыкаў» і «нефармалаў»?

А КАРАБЕЛЬ плыве... Апошнія тыдні і нават дні — рэзка мяняючы курс. Мяркуемы пераход на рынак, новая канцэпцыя нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва...

Што нас чакае заўтра?

Чым зоймецца наш парламент на пачатку другога месяца сваёй працы? Працягне пакутлівы марафон з выбарамі старшынь камісій? Ці, можа, тэрмінова пачне выпрацоўваць Дэкларацыю аб суверэнітэце рэспублікі?

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

## *Надзёныя радкі*

**Святлана БАСУМАТРАВА**

●

**Вецер вясновы...**
**А колькі ў краіне**
**Трывожных падзей:**
**Недзе — цягнік пад адхон,**
**Недзе — стрэлы грымяць,**
**Недзе — зноў землятрусы.**
**Тоіцца смерць у паветры,**
**У хлебе надзённым,**
**У талай вадзе.**
**Дзе ж паратунак нам,**
**Сёстры мае і браты,**
**Беларускі і беларусы?**
**Роўна чатыры гады,**
**Як чарнобыльскай**
**Чорнай вясне**
**Мы аддалі**
**На захланне**
**Наш родны палетак.**
**З-пад Магілёва і Гомеля**
**Моўчкі глядзяць,**
**Як у жудасным сне,**
**Бледныя тварыкі**
**Нашых атручаных стронцыем**
**Дзетак.**
**Кожны ахвяр сваіх**
**Горка аплакаў —**
**Тбілісі, Баку, Ерэван.**
**Чорныя хусткі на косах.**
**На бруку —**
**Крывавымі кроплямі кветкі...**
**А ці паклалі мы кветкі**
**На той спапялёны**
**Дзірван,**
**На чалавекам**
**Ці богам праклятыя**
**Нашы палеткі?**
**Поўняй у небе**
**Зрабіўся ізноў спакваля**
***Маладзік.***
**Цёмная хмара павольна,**
**Нібы ў кінакадры,**
**Пад ветрам лунае.**
**Хмара —**
**Як хустка жалобная,**
**Поўня — пунсовы гваздзік**
**Па тых, хто загінуў,**
**Хто сёння памёр**
**І хто заўтра сканае.**
**Клопат агульны ў вучоных:**
**Плямёны**
**Усе каб жылі.**
**Маюць каштоўнасць сваю**
**Мансі, мардва,**
**Гагаузы...**
**Ну, а ці будуць**
**Жыць праз стагоддзе**
**На гэтай зямлі**
**Дзеці славянскія,**
**Сёстры мае і браты,**
**Беларускі і беларусы?**
**Вось паважаная сесія**
**Зноў у сталіцы**
**Ідзе.**
**З сэрцам балючым, узрушаным**
**Слухаю**
**Тую трансляцыю.**
**Перш чым зацвердзіць**
**Парадак паседжання, старшыня**
**Галасаванне вядзе —**
**Варта сягоння ці не**
**Ставіць яшчэ раз пытанне**
**Пра радыяцыю.**
**— Не заракайся, —**
**У прымаўцы сказана, —**
**Ні ад сумы, ні турмы.**
**О, звышцярплівы**
**Народзе мой,**
**Постаццю гожы і русы,**
**Бі у званы**
**Чалавечнасці,**
**Ці ж безгалосыя**
**Мы,**
**Сёстры мае і браты,**
**Беларускі і беларусы!**

Ганарар аўтар пераводзіць у фонд «Дзеці Чарнобыля».

# ЗВЫЧАЙНАЯ ГІСТОРЫЯ?

**Адкрыты ліст намесніку старшыні Дзяржтэлерадыё БССР В. Д. ЧАНІНУ**

**Шаноўны Віталь Дзмітрыевіч!**

**Звяртаюся да Вас праз газету таму, што тэма майго ліста выходзіць за межы прыватных інтарэсаў. Больш таго, усведамляю: штосьці падобнае маглі б напісаць многія, бо гісторыя, пра якую пойдзе гаворка, даволі банальная ў практыцы сродкаў масавай інфармацыі і асабліва тэлебачання. Але нехта ж павінен пачаць...**

**Магчыма, 9 чэрвеня ў 13 гадзін 45 мінут Вы ўключылі тэлевізар і заўважылі, што перадача «Тэатр і час», аўтарам і вядучым якой я з'яўляюся ўжо чатыры гады, пачалася без заставак, без цітраў, а пасля яе завяршэння 4 мінуты 25 секунд любаваліся выявамі руж і гваздзікоў пад элегічную музыку. Гэтыя «фарбы лета» — далёка не мая пазіцыя адносна часу, у якім мы ўсе жывём. Але ж менавіта на гэтым узроўні, вобразна кажучы, і адбываюцца разыходжанні маіх поглядаў і поглядаў галоўнага рэдактара літаратурна-драматычных праграм Рэспубліканскага тэлебачання Уладзіміра Мялешкі, воляю якога мая перадача і была, што называецца, парэзана — напярэдадні выхаду ў эфір.**

**Павінен растлумачыць і Вам, і чытачам, што па задуме перадача пачыналася з каментарыя, які з'яўляўся ключом да разумення ўсяго таго, пра што вялася гаворка далей, і які, на маю думку, быў цікава вырашаны тэлерэжысёрам Барысам Бандарэнкам. Без гэтага гвалтоўна выразанага аўтарскага ўступу працягласцю ў чатыры мінуты перадача згубіла ўсялякі сэнс, бо нават урыўкі са спектакля «Сымон-музыка», паказаныя далей, расшыфроўвалі каментарый, былі падпарадкаваны яму.**

Што ж крамольнага было ў маім каментарыі, калі галоўны рэдактар, аддаючы загад пераманціраваць перадачу, нават забараніў паведаміць мне пра свае прэтэнзіі?

Напэўна, тое, што мною было сказана пра абсурднасць існавання савецкага тэатра праз пасрэдніка — ідэалагічныя ўстановы. Дык гэта ж ужо аксіёма: я магу прывесці сотню прыкладаў пра знішчальнае для мастацтва партыйнае кіраўніцтва тэатральнай справай. Усім вядома, як загадчык аддзела культуры ЦК КПБ мог прымусіць тэатр ставіць спектакль, каб ён пасля прайшоў адзін раз, ці забараніць пастаноўку, бо ў ёй «скажона адлюстроўвалася рэчаіснасць». Не было навізны і ў маёй наступнай канстатацыі: «Ідэі і нават эстэтыку дзесяцігоддзямі дыктавалі партыйныя пастановы» (успомнім жа ждануўскія ці брэжнеўскія «дакументы» па пытаннях мастацтва). Больш таго, я сцвярджаў, што наш тэатр хворы на тыя ж хваробы, што і ўсё грамадства, і што ён павінен вярнуцца да сваёй першаасновы, як, дарэчы, і грамадства ўвайсці ў нармальнае рэчышча свайго развіцця. Казаў я і аб тым, што кіраўніцтва рэспублікі абыякава ставіцца да развіцця сцэнічнага мастацтва. А што — рэшткавы прынцып фінансавання культуры, адсутнасць тэатральных памяшканняў, нізкія заробкі акцёраў — гэта няпраўда? Для мяне відавочна, што наша грамадства пакуль што не зацікаўлена ў новым тэатры. Няма пакуль што спадзяванняў і на новы Вярхоўны Савет БССР, бо дзеячы мастацтва ў ім прадстаўлены слаба. Менавіта таму ў каментарыі была і думка аб тым, што «кансерватыўнай сістэмай было зроблена ўсё, каб туды не трапілі дзеячы мастацтва». А хіба не так?

**«Тэатр і час» — праграма не інфармацыйная, а мастацка-публіцыстычная, аналітычная. Чаму ж мне было адмоўлена ў праве выказаць свой погляд на грамадскія працэсы ў іх сувязях з працэсамі развіцця тэатра? Тое, што адбылося, я расцэньваю не інакш як здзек з маёй прафесійнай годнасці — і як крытыка (забарона выказаць уласнае меркаванне), і як тэлежурналіста (парушана сцэнарная канцэпцыя). Пра рэжысёра Б. Бандарэнку я ўжо і не кажу: стала нормай умяшальніцтва ў рэжысёрскую работу.**

Многія праблемы Беларускага тэлебачання мне добра знаёмыя, бо некалькі гадоў працаваў у штаце той жа Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм. Вы ведаеце, Віталь Дзмітрыевіч, што сярод прычын, чаму я пакінуў рэдакцыю, адной з галоўных была немагчымасць рэалізаваць цікавыя задумы з-за адсутнасці сучаснай тэхнічнай базы, а таксама — урэзаная галоснасць. Пільны кантроль з боку партыйных органаў не толькі за гатовай «прадукцыяй», але і за думкамі журналіста, рэжысёра, узгадаваў плеяду паслухмяных галоўных рэдактараў, якія ў першую чаргу выконваюць ахоўныя функцыі. Ланцуг цэнзуры і здзеку з аўтарскага права даволі доўгі, і не заўсёды зразумееш, у якім кабінеце ён пачынаецца, а ў якім канчаецца, нарэшце, калі і якое звяно спрацуе.

Між тым, сістэма «спрацоўвае» надзейна. Перамантажу падвяргаюцца нават тэлевізійныя спектаклі. Давайце ўспомнім, напрыклад, пастаноўку «Невадам з Нёмана» паводле Л. Генюш ці мастацка-публіцыстычны партрэт Б. Тарашкевіча, спіс магу працягваць... А купюры, якія ўносіліся ў праграмы «Ліра», прысвечаныя Чарнобылю, Афганістану, Курапатам?..

**Разумею, на Беларускім тэлебачанні шлях да свабоды слова будзе доўгім і пакутлівым, пакуль будуць ігнаравацца правы вядучага ці ўдзельніка перадачы на ўласнае меркаванне. Але трэба насуперак высокапастаўленым чыноўнікам і ўласным паслухмянцам рабіць крокі на шляху да набыцця годнасці і незалежнасці.**

**У цывілізаванай дзяржаве я мог бы звярнуцца ў суд. Тут жа... Я патрабую, як мінімум, маральнай кампенсацыі за знявагу. Як бы таго не хацеў галоўны рэдактар У. Мялешка, наконт кампетэнтнасці якога я ніколі не меў ілюзій, збіраюся працягваць свой цыкл «Тэатр і час» да тае пары, пакуль калегія Дзяржтэлерадыё БССР або мастацкі савет не палічаць, што я раблю сваю справу на нізкім мастацкім ці публіцыстычным узроўні.**

**Гонар маю —**

**Вячаслаў РАКІЦКІ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства,**
**член праўлення Саюза**
**тэатральных дзеячаў БССР.**

# РОЗДУМ ПАСЛЯ СВЯТА

**Добра, што ёсць вялікія святы. Яны выводзяць нас з манатоннага будзённага рытму і даюць магчымасць зірнуць на сябе збоку—вачмі прыезджых гасцей. Тыя благога, вядома, не скажуць, але ўсё прыкмячаюць і пра ўсё маюць сваю думку.**

Вось і свята славянскага пісьменства адгрымела. Менавіта адгрымела, бо рэспубліканскія газеты праілюстравалі разгорнутымі, падрабязнымі рэпартажамі ледзь не кожны радок святочнай праграмы. Не буду яе каменціраваць: асабіста не шмат дзе ўдзельнічала. Скажу толькі, што ажыццёўленае далёка не было роўна задуманаму. «Урокі роднай мовы», напрыклад, і не маглі адпавядаць назве, бо ў большасці школ апошнія званкі ўжо празвінелі. Не вельмі ўдаўся «круглы стол» у Саюзе пісьменнікаў. Пасля доўгага прадстаўлення гасцей і гаспадароў аказалася, што ўсё, уласна, пра славянства і яго культуру сказана ўжо напярэдадні, пры адкрыцці свята. Неакрэсленая тэма і адсутнасць прадмета для дыскусіі зрабілі гаворку аморфнай і нецікавай. У цеснаце ды пад пільным вокам тэлекамеры разгледзецца цяжка — не тое, каб пазнаёміцца ды нязмушана пагутарыць. Сказваюцца і выдаткі пераносу, перасаджвання свята з балгарскай глебы на нашу, савецкую. Калі балгары славяць стваральнікаў пісьма, святых братоў Кірылу і Мяфодзія, гэта зразумела. А калі астатнія славяне, сабраўшыся на высокім узроўні, пачынаюць славіць саміх сябе, міжволі задумаешся. Не пра мэту (яна высакародная), — пра саму фармуліроўку свята і яго змест.

А змест, як вядома, дыктуе форму. Ці не таму столькі пафасу і пампезнасці было на ўрачыстым адкрыцці, што адбылося ў тэатры оперы і балета? Што і казаць: такое масавае, пышнае відовішча кожнага ўразіць. Калі гэтага пастаноўшчыкі хацелі дасягнуць, то, несумненна, іх можна віншаваць. Крыўдна толькі за наш фальклор — за песню беларускую і асабліва за танец. Праграма так і стракацела «знакам якасці»—званнем «дзяржаўны»: Дзяржаўны акадэмічны народны хор БССР імя Цітовіча, Дзяржаўны ансамбль танца БССР і яшчэ шмат чаго дзяржаўнага — з бездакорнай вывучкай і дарагімі касцюмамі. Аднак пры чым тут народная творчасць? Усё — да кожнага руху і павароту галавы так стылізавана і выглянцавана, так выхалашчана стэрэатыпнабязлікімі прыёмамі, што не па сабе становіцца. Ад народнага тут толькі назва, толькі пустая і яркая абалонка.

Не магу ведаць, якія прычыны і акалічнасці спрыялі закансерваванасці даўным-даўно дасягнутага ўзроўню. Хутчэй за ўсё справа не ў лішку прафесійнасці, а ў самім падыходзе да фальклору, у арыентацыі на чыста эстраднае відовішча. Пры такім падыходзе проста не патрабуецца разуменне і адчуванне народнай душы і нацыянальнага характару.

В. Распуцін з В. Бяловым, мабыць, вочы праглядзелі, ды так і не ўбачылі адрознення беларускага танца ад рускага. Тыя ж высокія выкіды нагамі. тая ж малайцаватасць, той жа дзявочы віск... Ансамбль «Свята» дык наогул, мо занадта літаральна разумеючы сваю назву, дэманстраваў неверагодную радасць — аж да развязнасці і безгустоўшчыны. Пэўнай частцы публікі гэта імпанавала. Але ўспомніце — каму давялося прысутнічаць ці быць ля тэлеэкранаў, як сцішылася, замерла зала, калі дыхнула жывым, непадробнанатуральным: на сцэну выйшаў фальклорны калектыў з Югаславіі. Не дзяржаўны— звычайны, нават лаўрэацкія званні неназначаны...

Думаецца, прайшоў час парадна-паказнога фальклору, патрабуецца новая прыступка ў яго асэнсаванні і развіцці. Тое, што паказваюць падчас дзяржаўныя калектывы, не дае ніякага ўяўлення пра самабытнасць нацыі, а толькі, можа, цешыць начальніцкае вока. Гэта водгук сацрэалізму ў мастацтве, перажытак часоў сталінскіх і брэжнеўскіх—з іх паказной манументальнасцю і застылымі формамі.

На шчасце, высокае майстэрства і разнастайнасць, уласцівыя класічнай частцы праграмы, усё ж вывелі канцэрт на належны ўзровень і пакінулі добрую памяць гасцям. Але нене ды і ўспомняцца ўбраныя ў касцюмы скарынаўскай эпохі «Сябры». Такое ўражанне, што яны і паварушыцца ў іх не асмельваліся...

Так што свята скончылася, а роздум застаўся.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

# АДМЯНІЦЬ ЯК НЕЗАКОННАЕ...

**У 1985 годзе ў Лондане была выдадзена кніга навуковага супрацоўніка сектара сацыяльнай псіхалогіі і эстэтыкі Інстытута філасофіі і права АН БССР Алега Бембеля «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» — яго планавая інстытуцкая праца, прысвечаная аналізу прычын заняпаду беларускай мовы ў БССР. За гэта сектар, у сценах якога нарадзілася даследаванне, быў скасаваны. А між тым, арганізаваны толькі ў 1984 годзе, сектар адразу зарэкамендаваў сябе сур'ёзнымі навуковымі працамі, прысвечанымі адраджэнню беларускай культуры і мовы.**

**Адзін з ініцыятараў гэтай «акцыі» па скасаванні В. Боўш, намеснік сакратара парткома АН БССР па ідэалогіі, пасля гэтага атрымаў павышэнне — стаў намеснікам дырэктара Інстытута філасофіі і права. На жаль, не спыніў расправы над супрацоўнікамі сектара і віцэ-прэзідэнт АН БССР І. Навуменка, які курыруе гуманітарныя інстытуты акадэміі.**

**Мы прапануем асудзіць практыку адміністрацыйных санкцый за друкаванае слова як грубае парушэнне правоў чалавека.**

**Лічым, што прэзідэнт АН БССР У. Платонаў, прэзідыум акадэміі павінны адмяніць як незаконнае, сфальсіфікаванае рашэнне адносна скасавання сектара сацыяльнай псіхалогіі і эстэтыкі ІФП АН БССР і аднавіць яго на чале з ранейшым кіраўніком — доктарам філасофскіх навук, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, сябрам Сойма БНФ «Адраджэнне» У. Конанам.**

**Васіль БЫКАЎ, Янка БРЫЛЬ, Рыгор БАРАДУЛІН, Васіль ЗУЁНАК, Максім ТАНК, Вячаслаў РАГОЙША, Алесь ЖУК, Васіль ХОМЧАНКА, Адам МАЛЬДЗІС, Яўген БАБОСАЎ, Міхась САВІЦКІ, Леанід ШЧАМЯЛЁЎ і іншыя — усяго 47 подпісаў.**

## *Спрэчкі, палеміка*

*Я адкрыў, што Кітай і Іспанія адна і тая ж зямля, і толькі з-за невуцтва прымаюць іх за розныя дзяржавы. Я раю ўсім знарок напісаць на паперы Іспанія, то і выйдзе Кітай.*

**М. В. ГОГАЛЬ.**

Дзіўныя пачуцці выклікае гэты дакумент. Незвычайная прэтэнцыёзнасць і агрэсіўнасць спалучаюцца ў ім са здзіўляючай наіўнасцю і тэарэтычнай бездапаможнасцю. Аналізаваць

**Як і трэба было чакаць, пошукі «новага краевугольнага паняцця» завяршаюцца поўным поспехам. Такім аказваецца паняцце «агульначалавечай метафармацыі». Чытач, натуральна, чакае, што аўтары «Маніфеста...» калі не прапануюць дэфініцыі ўводзімага імі паняцця, дык, прынамсі, укажуць на сутнасныя характарыстыкі адлюстроўваемай ім з'явы. Як гэта зрабіў, напрыклад, той жа Маркс, уводзячы ў навуковы ўжытак паняцце грамадска-эканамічнай фармацыі. Але Маркс разумеў, пра што гаварыў. Стваральнікі ж «Маніфеста...», мяркуючы па ўсім, гавораць з чыста плата-**

доў мы мянялі сацыяльную прыроду чалавека. Цяпер вось і да генатыпу дабраліся. Праўда, аўтары «Маніфеста...» гавораць, што «такая дзейнасць дапушчальная толькі пасля дасягнення чалавецтвам найвышэйшага ўзроўню гуманізму і маральнай дасканаласці». І гэта, вядома, цудоўна. Толькі душашчыпальных песень пра «найвышэйшы гуманізм і маральную дасканаласць» мы наслухаліся ўжо больш чым дастаткова. Пачынаюць з «най-

# АДКУЛЬ ВЫЕХАЛІ, ТУДЫ І ПРЫЕХАЛІ

**З месяц назад таварышы з клуба камуністаў, якія стаяць на «Дэмакратычнай платформе ў КПСС», перадалі мне брашуру пад назваю «Манифест обновляющейся Коммунистической партии Советского Союза» і папрасілі даць сваё заключэнне. Азнаёміўшыся з брашурай, я прыйшоў да высновы, што тут патрэбна не філасофская, не сацыялагічная, а экспертыза зусім іншага роду. Гэта я і сказаў таварышам, на тым і пагадзіліся, палічыўшы, як кажуць, пытанне закрытым. І як жа я быў здзіўлены, калі 1 чэрвеня ўбачыў той самы «Маніфест...» на старонках «Советской Белоруссии». Факт публікацыі крута мяняе сітуацыю: даводзіцца ўспрымаць «Маніфест...» усур'ёз, разглядаць яго не як феномен паталогіі свядомасці, а як з'яву тэорыі, як уклад у развіццё камуністычнай ідэі ў рамках аб'яўленага ЦК КПСС плюралізму меркаванняў.**

яго па сутнасці — задача амаль непасільная, бо ён пабудаваны па тыпу той дзівоснай логікі, у адпаведнасці з якой калі на гародзе расце бузіна, дык у Кіеве абавязкова будзе дзядзька. Таму я загадзя прашу ў чытачоў прабачэння, калі мае заўвагі будуць мець фрагментарны характар.

Як і належыць у падобных дакументах, «Маніфест...» пачынаецца з раздзела, мэта якога — даць агульнае ўяўленне аб чалавечай цывілізацыі і магістральным шляху яе развіцця. Часткова, праўда, гэта ўжо зроблена, на думку аўтараў «Маніфеста...», Марксам шляхам увядзення ў сацыялагічную тэорыю паняцця грамадска-эканамічнай фармацыі. Але толькі часткова. Бо «паняцця грамадска-эканамічнай фармацыі аказалася недастаткова для навуковага абгрунтавання практыкі будаўніцтва камунізму, паколькі камунізм не «прагледжваўся» наскрозь і здаваўся вечным грамадскім ладам».

Вось ужо сапраўды ўсё геніяльнае простае. Аказваецца, вытокі правалу сямідзесяцігадовага эксперыменту пабудовы «светлай будучыні», які прывёў самую багатую ў свеце краіну на край эканамічнай, палітычнай і духоўнай катастрофы, — выключна ў паняцці грамадска-эканамічнай фармацыі, яго вузкасці, якая не дала магчымасці «прагледзець камунізм наскрозь». Не буду засяроджвацца на пытанні аб тым, наколькі ўсё гэта стасуецца з метадалогіяй Маркса, наогул з матэрыялізмам ды і проста з элементарным здаровым сэнсам. Куды больш цікава іншае: які вывад прапануюць нашы палітычныя экстрасенсы? Зрэшты, здагадацца няцяжка: якая хвароба — такія і лекі. Вядома ж, «патрабуецца новае краевугольнае паняцце, якое прыадкрыла б заслону над камуністычнай і паслякамуністычнай перспектывай».

Дзе ўжо нам да «паслякамуністычнай перспектывы», нясмела запярэчыць чытач, нам бы да камунізму дабрацца. На благі канец, хоць цэны на хлеб не падымайце. А то ж М. І. Рыжкоў пагражае па свеце пусціць. Аднак такія празаічныя рэчы, як хлеб надзённы, мала турбуюць стваральнікаў «Маніфеста...». І гэта зразумела: людзі, якія сягаюць «у аддаленую перспектыву развіцця чалавецтва», звычайна страчваюць здольнасць бачыць тое, што робіцца, як кажуць, у іх пад носам.

**нічнай любві да самога працэсу гаварэння, як ружа прыемна пахне і салавей спявае. Паняцце «агульначалавечай фармацыі» ўяўляе сабой лагічную недарэчнасць, бо заключае ў сабе ўнутраную супярэчнасць: «агульначалавечая» ў адпаведнасці з семантычным значэннем і лагічным сэнсам — значыць, уласцівая ўсяму чалавецтву; фармацыя (ці метафармацыя, у дадзеным выпадку гэта не так важна), наадварот, утрымлівае ў сабе ідэю спецыфікацыі і, значыць, паказвае на тып, асаблівую якасць чалавечага. Фармацыя (ці метафармацыя) гэтак жа не можа быць агульначалавечай, як не можа быць агульнамлекакормячай каровы ці агульназлакавага жыта.**

**Увесь камізм сітуацыі заключаецца ў тым, што аўтары далей самі пазбаўляюць сэнсу (калі, вядома, можна пазбавіць сэнсу тое, што сэнсу не мае) шчасліва знойдзенае імі «краевугольнае паняцце», прапануючы тыпалогію «агульначалавечых метафармацый». Яны вылучаюць тры такія тыпы «агульначалавечых метафармацый». «На працягу першай метафармацыі чалавек выходзіў з жывёльнага стану і дасягнуў сучаснага біялагічнага віду. У аснове другой метафармацыі ляжыць эканамічная дзейнасць, развіццё розуму і духу чалавека на аснове ўдасканалення вытворчасці і спажывання матэрыяльных і духоўных даброт. Трэцяя метафармацыя ў сваёй аснове, па ўсім відаць, будзе ўяўляць сабой далейшае ўдасканаленне розуму і духу чалавека на базе мэтанакіраванай змены генаў чалавека, паляпшэння яго генатыпу».**

Так гэта ці не так — бог ведае. Ніякага тэарэтычнага абгрунтавання сваёй тыпалогіі аўтары «Маніфеста...» не даюць. Затое яна спараджае мноства пытанняў. Напрыклад, чаму ў падмурку другой метафармацыі ляжыць «развіццё розуму і духу на аснове ўдасканалення вытворчасці і спажывання матэрыяльных даброт», а ў падмурку трэцяй — «далейшае ўдасканаленне розуму і духу чалавека на базе змены генаў чалавека, паляпшэння яго генатыпу»? Якія ўнутраныя асновы пераходу ад адной метафармацыі да другой? Нарэшце, ці азначае гэта, што эканамічная дзейнасць перастае адыгрываць сваю ролю як фактар «развіцця розуму і духу» пры пераходзе да трэцяй метафармацыі? Калі так, дык зноў-такі — чаму? Усе гэтыя пытанні застаюцца без адказу. Але менавіта таму і прапанаваную аўтарамі «Маніфеста...» тыпалогію «агульначалавечых фармацый» нельга ўспрымаць інакш, як чыста абстрактную, схаластычную канструкцыю.

Ёсць яшчэ адзін нюанс, які не можа не насцярожваць. Гаворка ідзе пра пастулюемую перспектыву ўмяшання ў генатып чалавека. Семдзесят га-

вышэйшага гуманізму», а канчаюць «рэвалюцыйнай мэтазгоднасцю». Узнікае тут і такое пытанне: чым дапёк «прыхільнікаў камуністычнага шляху» генатып чалавека і ў чым сэнс яго змены? Якая аб'ектыўная неабходнасць яго змены?

Аднак ва ўсёй гэтай схаластыцы ёсць усё-такі свая слушнасць. Справа ў тым, што аўтары «Маніфеста...» спрабуюць, праўда, досыць своеасабліва, рэалізаваць прынцыпы дыялектыкі. Іх «агульначалавечыя метафармацыі» яўна імітуюць гегелеўскую трыяду: першая — станаўленне чалавека як біялагічнага віду (тэзіс), другая — развіццё чалавецтва на аснове «эканамічнай дзейнасці» (антытэзіс як адмаўленне тэзіса), трэцяя — развіццё на аснове мэтанакіраванага ўздзеяння на генатып чалавека (сінтэз як адмаўленне антытэзіса і вяртанне да тэзіса на новай аснове). Ніякай дыялектыкі ва ўсім гэтым, вядома, яшчэ няма, бо сутнасць дыялектыкі заключаецца зусім не ў тым, каб падганяць жывую рэальнасць пад лагічныя схемы, якія б добрыя яны ні былі самі па сабе. Калі так бяздумна адносіцца да законаў дыялектыкі, то пры пэўнай жывасці ўяўлення можна і змеявік самагоннага апарата выдаць за дыялектычную спіраль.

Баюся, што з такою падгонкаю самагоннага апарата пад дыялектычную спіраль мы і маем у дадзеным выпадку справу. Прывяду яшчэ толькі адзін прыклад. У адпаведнасці з прапанаванай аўтарамі схемай капіталізм, як грамадска-эканамічная фармацыя, «расколваецца» ў выніку ўласцівых яму супрацьлегласцей на два «фарміёны»: дзяржаўна-манапалістычны капіталізм і манапольна-дзяржаўны сацыялізм. Таму развіццё чалавечай цывілізацыі ажыццяўляецца сёння шляхам узаемадзеяння гэтых двух «фарміёнаў», кожны з якіх з'яўляецца неабходнай умовай гэтага развіцця. «Іх функцыя як праціўнікаў, — апавяшчае «Маніфест...», — у захаванні спецыфічнасці кожнага шляху як гарантыя развіцця чалавецтва».

Тут зусім яўна прагледжваецца жаданне падагнаць прапанаваную схему пад закон тоеснасці супрацьлегласцей. Адсюль — і «раскол» адзінага на супярэчлівыя бакі, і ўзаемадзеянне гэтых бакоў як умова развіцця цэлага. Ад-

(Працяг на стар. 4).

*Да 90-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра ЖЫЛКІ*



# Бард адраджэння

Лёс Уладзіміра Жылкі, уключаны ў нацыянальна-вызваленчую барацьбу, паварочваецца да нас сёння новымі жывымі гранямі, высвечваючы зорныя і чорныя дзеі нашай гісторыі. Жыццё і творчасць гэтага паэта унікальныя сваёй гістарычнай ёмістасцю і трагічнай характэрнасцю для Беларусі. Здавалася б, перабудова і адраджэнне павінны былі падняць яго самым першым на п'едэстал пакут, ахвярнасці і славы. Яшчэ ж у першай палавіне 20-х гадоў крытыкі, сярод іх самы знаны, Антон Навіна, прызнаў Жылку паэтам нацыянальным па ідэалагічнай вастрыні яго паэзіі і народна-фальклорнай шматфарбнасці вобразнай палітры. Няхай крытык тады тлумачыў, на свой лад, звужана ідэйнасць, але ж беларуская літаратурная грамадскасць абапал Рыжскай мяжы выбрала менавіта Жылку і Дубоўку найбольш арыгінальнымі беларускімі паэтамі з пакалення гаўрошаў рэвалюцыі.

Самабытнасць Жылкі заўважалася ў тэматыцы і ў паэтыцы: ухвалялася крытыкамі і грамадска-палітычнымі дзеячамі, скажам, Тамашом Грыбам і Леапольдам Родзевічам, кіраўніцтвам Беларускага пасольскага клуба ў польскім сейме, якое на свой кошт выдала яго зборнік «На ростані». Зычліва адкрываў перад Жылкам старонкі «Беларускіх ведамасцяў» і «Нашай Будучыны» Максім Гарэцкі — самы універсальны на той час у Заходняй Беларусі знаўца мастацкіх каштоўнасцей. Вострая крытыка абрынулася толькі з-пад пяра педантычнага лінгвіста і кансерватыўнага палітыка Янкі Станкевіча, які ніяк не мог дазволіць паэту выйсці за межы школьнай граматыкі і самому ўстаноўліваць нормы паэтычнай мовы. Такая крытыка, з дазволу сказаць, таксама павінна прачытвацца як фатаграфія-негатыў і запісвацца на рахунак творчай свабоды мастака, які заўжды шукае характэрнай асабістай мовы, уласнай манеры, небанальнага аблічча.

Сёння ж мне даводзіцца чуць ад паклоннікаў таленту Жылкі скаргі на складанасць твораў, парушэнні паэтам нормаў літаратурнай акцэнтацыі, на лексічныя запазычанні. І я разумею гэтыя прэтэнзіі людзей, прывучаных да гладкага дыктарскага мыслення і маўлення. А Жылка шукаў нормаў у жывой народнай мове і мудрасці. Эталонам і камертонам трымаліся ў яго моўнай свядомасці ўзоры матчынай і бацькавай гаворкі, гамонкі завознікаў на млыне ў Макашах ці вясёлай гаманы наведвальнікаў казённай манапольскі, у якой бацька, шчыры мараліст, сцяўшы сэрца, прадаваў весялуху і ўласным прыкладам цвярэзніцтва ўтрымліваў чалавечую меру прыстойнасці нават сярод падвыпіўшых мужчын. У народнай паэзіі чэрпаў Жылка прыёмы і спосабы паэтызацыі слоў і выслоўяў, «уздзіўляючы» мову. Як прыгажуня, стараючыся звярнуць увагу на сваё хараство, моднічае, часам нават капрызнічае, так і паэзія прыдае адметнасць і непаўторнасць мове, змяняючы націскі ў словах, гарманізуючы фанетычны малюнак, павышаючы гуманістычны каэфіцыент тэксту. Народная паэзія кішыць падобнымі прыкладамі: «Пад калінаю, пад малінаю, там сядзеў голуб з галубінаю»... Вярніце гэтым окаючым словам нарматыўнае беларускае аканне — і яны стануць ахраматычнымі, шэрымі, як сама штодзённасць, непаэтычнымі. Жылка ж валодаў прыёмамі паэтызацыі не толькі фальклорнай, а і літаратурнай, ён актыўна ведаў усе славянскія мовы і яшчэ французскую, нямецкую, скандынаўскія і латынь. Для яго было натуральным пісаць на аснове беларускага і сусветнага вопыту. Нездарма ў студэнцкія гады Жылка назваў Купалу «адным з найбольш яскравых і глыбокіх прадстаўнікоў мадэрнай беларускай літаратуры». Выказванне адрасавалася рафініраваным чытачам з асяроддзя рускай і славянскай эміграцыі ў Заходняй Еўропе, але выказвала яно і творчае крэда самога Жылкі. Папулярнасць Жылкі адраджаецца сёння разам з развіццём эстэтычнага густу чытачоў і пераадоленнем памылковага ўяўлення, быццам беларуская літаратура прастэцка-мужыцкая, падфальклорная.

Уладзімір Жылка нарадзіўся 27 мая 1900 года ў вёсцы Макашы Нясвіжскага раёна. Бацька яго, Адам, паходзіў з-пад Случчыны, цясляры́ў у ваколіцы Гарадзеі, старым кавалерам ажаніўся на Таццяне Раманейка, прыгажуні з Падлесся, і асеў на сталае жыхарства ў Макашах. Уладзімір, першынец Адама і Таццяны, скончыў у Міры чатырохкласнае вучылішча, потым вайною вучыўся на агранома ў Багародзіцкім вучылішчы Тульскай губерні. Там пачаў далучацца да грамадскага жыцця. Магніт беларускай літаратурнай мовы, беларускай паэзіі пачаў прыцягваць Жылку, як сведчыць перапіска з дзядзькам Юрыем Раманейкам, у студэнцкія гады, але паэтычнае нараджэнне адбылося ў грамавым 1918 годзе ў Мінску, у «Беларускай хатцы», хрышчэнне — у гарачых хвалях нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

У Мінску, які падымаўся да ролі беларускай сталіцы, Жылка ўвайшоў адначасна ў літаратурнае і палітычнае асяроддзе, пазнаў Бядулю, Купалу, Ядвігіна Ш., пасябраваў з Міхасём Чаротам, разам з ім удзельнічаў у перадзеле панскай зямлі. На мітынгах і сходах пазнаў найбольш яскравых удзельнікаў беларускай палітычнай сцэны як нацыянальна-дэмакратычнага лагера (Ігната Дварчаніна, Тамаша Грыба, Лявона Зайца), так і з камуністычнага (Цішку Гартнага, Язэпа Дылу, Алеся Чарвякова), прысутнічаў госцем на Усебеларускім Кангрэсе, быў сведкам салдацкага разгону і безабароннасці беларускага народнага форума, набіраўся сімпатый і антыпатый, прывыкаў да зрываў і зігзагаў дзяржаватворчасці, пераконваўся, што не багі гаршкі лепяць. У часе ўсталявання БССР аказаўся нават у ліку экспертаў В. Кнорына, які раіўся наконт самай трапнай назвы для рэспублікі.

Палітычныя сімпатыі Жылкі дзяліліся паміж левым крылом беларускіх эсэраў і камуністамі. Праблема сумяшчэння ў вызваленчым руху і ў сваёй уласнай душы ідэалаў сацыялізму, і сацыяльнай справядлівасці з нацыянальнай свабодай, ахвярнай любоўю да радзімы-Беларусі, беларускага народа — вось светапоглядная праграма, якую Жылка ўзяў з гушчы беларускага адраджэння і застаўся ёй верным усё жыццё. Сумяшчэнне сацыялістычнага з нацыянальным засцерагала яго ад крайнасцей і перакосаў, дапамагала арыентавацца ў бурлівым моры палітычнага жыцця сярэдняй Еўропы, дзе Жылка прадаўжаў вучыцца і ўдзельнічаць у грамадскім жыцці — у Вільні, у Дзвінскай беларускай гімназіі, на філасофскім факультэце Карлавага універсітэта ў Празе — як стыпендыят, рэкамендаваны прагрэсіўнай грамадскасцю Заходняй Беларусі, урэшце ў Мінску, куды паэт вярнуўся ў 1926 годзе. Нават высланы ў горад Уржум Вяц-

# З успамінаў пра паэта

**Людміла Іванаўна Краскоўская — дачка вядомага культурна-асветнага дзеяча, дырэктара Дзвінскай беларускай гімназіі. Закончыўшы гімназію, яна паехала вучыцца ў Карлаў універсітэт. Яе бацька выехаў з жонкай і двума сынамі ў Мінск. Тут працаваў у органах асветы, часта ездзіў у камандзіроўкі ў Маскву, дапамагаў Жылку пераехаць у Мінск. У 1930 г., у часе першай кампаніі арыштаў, Краскоўскага арыштавалі, і ён загінуў у рэпрэсіўнай машыне.**

**Л. Краскоўская, археолаг па адукацыі, жыве ў Чэхаславакіі, працавала навуковым спецыялістам у Славацкім музеі ў Браціславе, цяпер на пенсіі. Успаміны яна напісала па просьбе дачкі У. Жылкі Наталлі Лазаравай.**

Уладзіміра Жылку я ўпершыню ўбачыла ў 1922 годзе, калі наша сям'я пераехала з Вільні ў Даўгаўпілс (калісь Дзвінск) у Латвіі. Там заснавалі Беларускую дзяржаўную гімназію, якую арганізаваў мой бацька Іван Ігнатавіч Краскоўскі, першы дырэктар гімназіі. Я вучылася ў апошнім дзесятым класе (у Латвіі была дзесяцікласная школьная сістэма). Уладзімір Жылка прыехаў да Даўгаўпілсу з Вільні ў 1922 годзе і таксама паступіў у дзесяты клас гімназіі. У Даўгаўпілсе ён жыў у нашай сям'і. Быў старэйшы за мяне не толькі гадамі, але і жыццёвым вопытам, таму ўплываў на мяне. Займаўся галоўным чынам літаратураю, пазнаёміў мяне з творчасцю тагачасных беларускіх і рускіх паэтаў. Падараваў мне кніжкі вершаў А. Ахматавай і М. Цвятаевай, якія ў той час выйшлі ў бібліяграфічных выданнях. Да цяперашняга часу я захавала сшытак, куды перапісвала вершы Блока, Бальманта, Эрэнбурга. З гэтых вершаў мы імкнуліся зразумець, якія напрамкі існавалі ў тагачаснай літаратуры. У. Жылка цікавіўся і французскай паэзіяй. Памятаю, што я яму перакладала вершы Ш. Бадлера.

У гімназіі, у Даўгаўпілсе, У. Жылка вучыўся толькі паўгода, а пасля Новага 1923 года выехаў зноў у Вільню. Я не ведаю прычыны яго ад'езду, але з нашых размоў я зразумела, што яго гняло становішча, у якім ён апынуўся: не меў заробкаў, жыў у нашай сям'і. Мае бацькі і ўсе мы глядзелі на Уладзіміра, як на члена сваёй сям'і. Беларускае культурнае жыццё ў Латвіі ў той час так пашыралася, што У. Жылка меў досыць працы сярод моладзі. У Латгаліі (усходняя частка Латвіі) жылі пераважна беларусы, патомкі старадаўніх крывічоў. У Латвіі на пачатку 20-х гадоў існавалі тры беларускія гімназіі, апрача Даўгаўпілса яшчэ ў Люцыне і Рэжыцы, было многа пачатковых беларускіх школ. Калі да культурнай працы дадаць навучанне ў гімназіі, дык стане зразумелым, што час у маладога паэта быў запоўнены справамі. Усіх здзівіла, што ён вырашыў паехаць з Даўгаўпілса. Мае бацькі намаўлялі яго, каб застаўся і закончыў гімназію.

У 1922—23 гадах пераход граніцы не складаў вялікай цяжкасці. Некаторыя вучні гімназіі жылі блізка каля граніцы з БССР і апавядалі аб варунках тамашняга жыцця. Стаялі пагранічныя слупы, але па абодва бакі граніцы мясціліся беларускія вёскі. Хлопцы з розных бакоў граніцы разам гулялі ў футбол, жыхары з вёсак хадзілі да суседзяў у лес па грыбы ці па ягады. На літоўска-польскай граніцы было падобнае становішча.

У. Жылка не затрымаўся доўга ў Вільні. Яшчэ ў 1923 годзе ён выехаў да Прагі ў Чэхаславакію, дзе мелася магчымасць вучыцца далей, таму што міністэрства давала студэнтам стыпендыю. У Чэхаславакіі Жылка скончыў матуральныя курсы і паступіў на філасофскі факультэт Карлавага універсітэта. Я прыехала да Прагі вучыцца ў 1924 годзе і таксама запісалася на філасофскі факультэт. Мы рэдка бачыліся ва універсітэце, бо Жылка слухаў лекцыі па гісторыі літаратуры, а я хадзіла на лекцыі па археалогіі і гісторыі мастацтва. Мы спатыкаліся ў Студэнцкім доме, які пабудавала амерыканская арганізацыя IMCA. Там былі пакоі для навучання, зала адпачынку, сталоўка, ванная, пральні. Гэты дом IMCA вельмі дапамагаў студэнтам. Умовы на кватэрах былі кепскія, звычайна там толькі спалі, а цэлы дзень праводзілі ў школах і ў Студэнцкім доме.

У. Жылка жыў на кватэры ў Празе. Я пад час студый ва універсітэце кватаравала ў блізкім мястэчку Радоціне і прыязджала да Прагі на лекцыі. Клімат у Празе быў нездаровы, асабліва для людзей са слабымі лёгкімі. Паэт выглядаў кепска, часта хварэў. Ежа ў Студэнцкім доме ў сталоўцы была танная, але не адзначалася добрай якасцю. Жыццё студэнтаў у Празе не было лёгкім, з грашыма трэба ўмець абыходзіцца ашчадна, эканоміць. Дзяўчаты ў большасці выпадкаў умелі гаспадарыць і абыходзіліся стыпендыяй, але ў хлопцаў выходзіла горш. Летам некаторыя студэнты працавалі як рабочыя, але Жылка з-за нездароўя не мог гэтага рабіць. Неяк так склалася, што ў Празе Жылка і я мелі кожны сваю кампанію і спатыкаліся мы толькі выпадкова.

Мае бацькі ў 1925 годзе пераехалі з Латвіі ў БССР, у Мінск. У. Жылка таксама вырашыў ехаць у БССР, дзе жылі яго бацькі. Ён гаварыў, што нарэшце мусіць дапамагчы сваім родным. Праз мяне прасіў майго бацьку, каб ён дапамог прыехаць. Мае бацькі ўжо бачылі, як складваліся абставіны ў гэты час у Мінску. Матка мне пісала некалькі разоў, што наш сябар мусіць раней скончыць універсітэт у Празе, што клімат у Мінску для яго нездаровы. Але Жылка не слухаў парад, намагаўся вярнуцца да роднай хаты. У 1926 годзе ён паехаў на Беларусь. Спачатку жыў зноў у нашай сям'і. Браты Жылкі — Барыс і Кастусь — вучыліся ў Мінску. Трэцяга брата, Алега, я не ведала, ён працаваў у вёсцы на гаспадарцы.

Летам 1927 года я прыехала ў Мінск да бацькоў. Я мела яшчэ латвійскі пашпарт і магла ехаць у СССР з Інтурыстам. Гэтыя паездкі каштавалі многа грошай, але да 1930 года можна было паехаць, пакуль не зачынілі граніцы. Так мы зноў спаткаліся ў Мінску і часта былі разам. Калі я вярнулася ў Прагу, мы перапісваліся. У 1928 годзе У. Жылка мне напісаў, што ён ажаніўся і наша перапіска спынілася. Другі раз я прыехала да бацькоў у Мінск у 1929 годзе. Тады У. Жылка прыйшоў да нас разам са сваёй жонкай Рымай і пазнаёміў нас. З 1929 года, калі я вярнулася з Мінска да Прагі, мы больш не сустракаліся. Але я ведала пра яго лёс з лістоў маёй мамы.

У. Жылка быў вельмі эмацыянальны, але разам з тым пэўна ішоў да сваёй мэты. Ён горача любіў сваю радзіму — Беларусь, любіў і ідэалізаваў Вільню як беларуска-літоўскі гістарычны цэнтр.

Я досыць доўга ведала У. Жылку, але мне цяжка пісаць пра яго. Я не магу ацаніць яго як паэта, гэта зрабілі гісторыкі літаратуры, галоўным чынам У. Калеснік, які шмат пісаў пра яго творчасць. Нашы адносіны былі розныя, але заўсёды заставаліся нязменнымі — мы верылі адзін аднаму.

С. КРАСКОЎСКАЯ.

Васіль МАКАРЭВІЧ



## Боты

Дабротнай
Спелае работы,
На ўсю дзяржаву уначы
Рыпелі ялавыя боты,
А, можа, нават кірзачы.

Быў гаспадар,
Здаецца, горды,
Што тыя боты-бабылі
Падобны чымсьці
Да батфортаў
Пятра Вялікага былі.

Падэшву,
Схопленую дратвай,
У тры рады
Прайшлі цвікі,
Бы шылі іх
Для бітвы ратнай
Не на гады,
А на вякі.

Ішлі, цяжкія, скрозь
І лезлі,
Ні меж не знаючы,
Ні дна,
Нібы адлітыя з жалеза,
Ці сама меней, з чыгуна.

І, скалануўшыся, дрыжала,
Няўцямна сцяўшы
Два крылы,
Уся бяскрайняя дзяржава,
Калі ступаў ён
У Крамлі.

Чужое —
Што там разбірацца?!—
Жыццё паставіўшы на кон,
Пераступіць ён мог
І брацтва,
Любую клятву
І закон.

Па кабінеце ў іх гадамі
Хадзіў-снаваў
Туды-сюды,
А пакідаў пад Магаданам
Ад ботаў рваныя
Сляды.

Каўказец сам,
З Каўказа родам,
Не ўмеў смяяцца і дружыць.
Ды мог ён цэлыя народы
Каваным ботам
Раздушыць.

Якое зло,
Якая сіла
Адным на зайздрасць,
Тым на страх,
Вадзіла боты і насіла
Па гарадах
І ўсіх краях?

І ўся партыйная
Пяхота,
Ледзь не забыўшы Ільіча,
Даўно раўнялася на боты
І фрэнч казённы
Вусача.

І боты
Ў хатах і бараках,
Дзе кожны роў адно «Ура»,
Былі тым сімвалам і знакам —
Ён верны сын правадыра.

Хіба цябе не патурбуе,
Што пад шалёны гвалт
І крык,
Біў у ААНе па трыбуне,
Пляменнік ботаў —
Чаравік.

Да ўдушша
Спазма сціске горла:
У паласе сляпых інтрыг
Ці толькі пыл Афгана
Цёрлі
Унукі ботаў тых,
Старых?!

А іх саміх,
Што ўжо з гадамі
Падобны сталі да карчоў,
З якою прагай выглядае
Кагорта новых вусачоў!

Выпадак зручны дай
І месца,
Не прамахнуцца —
Ўпэўнен будзь!—
Каб у стаптаныя улезці,
З шалёным выгукам
Абуць!

І як калісьці
Ноччу душнай —
Тырану трэба дагадзіць!—
Пачнуць, чыгунныя,
Па душах
Без жалю сноўдаць
І хадзіць.

## Шклянка

У гады задушныя,
У гады балючыя,
Бедамі набітыя
Да краёў бітком,
На сталы узбілася,
Кожны дзень балюючы,
Шклянка малянкоўская
З круглым абадком.

Колькі ліліпутаў
Рвалася у Цэзары,
Ды ад іх застаўся
Толькі чэзлы цень.
Той, хто для адстрэлу
Выдаваў ліцэнзіі,
Стаўся рэфарматарам:
Паніжэнне цэн!

Пра адданасць партыі
Трэнькалі на плошчах,
Колькі там падману,
Як закрытых зон!
З цэнамі мітрэнга,
Гэта — як відовішча,
Цыркавыя хітрыкі
Ці ілюзіён.

Лідзія АРАБЕЙ



# Нечаканая госця

*апавяданне*

ПАД ВАКНОМ брахалі сабакі. Адзін гаўкаў злосна, звягліва, другі брахаў, як у бочку, трэці вісчэў, нібы стараючыся дагадзіць і аднаму, і другому. Гэта суседзі павыводзілі на прагулку сваіх гадаванцаў. Колькі прасіла іх Вера — не збірайцеся з сабакамі пад вокнамі, ці мала прастору ў двары, ідзіце з імі далей ад дома, дык не. Збяруцца бабы і мужыкі, між сабою — ла-ла-ла, а сабакі між сабою, на сваёй мове. І панялі ж людзі моду — амаль у кожнай кватэры сабака. Нічога не мае Вера супроць гэтых стварэнняў, сама часам каторага пагладзіць, дасць кавалак кілбасы. Але калі вось так — ляжыш хворая ў ложку, а яны там вэрхал узнімаюць, то хоць памры! Ляжала, пакутавала, чакала мужа — паслала з рэцэптам у аптэку. Даўно няма, мусібыць, бегае, шукае. Тры аптэкі ў горадзе — адна ў цэнтры, дзве на ўскраінах, пакуль усе аббяжыць.

Сабачы брэх звонам аддаваўся ў галаве, і чакала таго лякарства, як збавення ад пакут. Нарэшце забразгаў ключ у дзвярах, прыйшоў муж, распранаўся ў калідорчыку. Гукнула са спальні:

— Ці ж прынёс?

Ён стаў у дзвярах — успацелы, вінаваты, пасмачка валасоў, што прыкрывала лысіну, збілася набок, і яна свяцілася сарамліва, таксама быццам вінаватая.

— Няма... Кажуць, вялікі дэфіцыт... Усе аптэкі аббегаў...

— Я так і думала, — зусім упала духам Вера. — Але чаго ж яна выпісвае, калі ў аптэках няма? — папракнула доктарку. Абы адчэпнага?

— Можа, я заўтра ў вобласць пад'еду, можа, там ёсць? — быў на ўсё гатовы муж.

— Тое самае будзе і ў вобласці, там, кажуць, нават ёду няма.

Сабакі ўсчалі новы вэрхал, зноў заліваўся звяглівы, бухаў, як у бочку, стары гаўкала.

Вера заплюшчыла вочы.

— Хоць бы ты сабачнікаў тых паганяў, каб не збіраліся пад вокнамі, сілы няма.

Муж пастаяў, памаўчаў.

— Няёмка...

Вось такі яе Коля. Можа ўсе аптэкі аббегаць, у вобласць з'ездзіць — лекаў пашукаць, а сказаць бессаромным суседзям, каб не пасвілі сабак пад вокнамі, то няёмка... Але ўжо не пераробіш, дваццаць пяць гадоў жывуць разам, а якім узяла, з такім да срэбнага вяселля дажыла. Колькі ні старалася перавыхаваць, перарабіць на свой капыл — не выйшла. І тут ужо нічога не зробіш.

Ноччу не спала, усё шукала шчаслівага месца на падушцы і не знаходзіла. Думала, што захварэла не ў час — артыкул, што заказалі ў сталічнай газеце, не дапісала, і свая работа, нарыс, з якім валэндаецца амаль паўгода, — ляжыць на стале. Устарэе... Але калі гэта было, каб захварэў у час, хвароба заўсёды недарэчы.

І назаўтра пачувала сябе блага, не ўстала з ложка, муж гаспадарыў на кухні, карміў яе. Добра, што канікулы ў школе.

Недзе пад сярэдзіну дня ў дзверы пазванілі. Коля пайшоў адчыняць. Яна са спальні чула, што прыйшла жанчына, але па голасе не магла пазнаць — хто. Жанчына пыталася яе, Коля казаў, што хварэе, але тая папрасіла прабачэння і пакіравалася ў спальню.

Вельмі здзівілася Вера, калі ўбачыла сакратара райкома па прапагандзе Таісу Рыгораўну Бацян. Не існавала між імі ні сяброўства, ні іншых адносін, каб маглі хадзіць адна да адной дадому. Наадварот, Вера адчувала з боку сакратаркі быдта прыхаваную пагарду. Сустракаючыся на якіх-небудзь нарадах і вітаючыся, Таіса Рыгораўна ўсім сваім выглядам нібы казала, хоць ты там і нейкая журналістка, у сталіцы друкуешся, але тут, у раёне, я вышэй за цябе, тут я гаспадыня і сіла, улада ў маіх руках. Вера старалася не звяртаць увагі на гэты маўклівы маналог кабеты, а часам, таксама маўкліва, адказвала ёй: што ж, няхай сабе так, няхай ты вышэй за мяне, здаравей за мяне, бо маладзейшая, прыгажэй за мяне, апранаешся лепей... І ўлада ў цябе ёсць. Што ж, кожнаму сваё...

Але сёння на твары Таісы Рыгораўны не відаць было той пагарды, прызнання ўласнай вышэйшасці. Наадварот, твар праменіў шчырасць, павагу і, што дзіўна, у спальню яна зайшла ў адных панчохах, чорных з узорамі, модных цяпер. Скінула ў калідоры боцікі, быццам і гэтым паказваючы сваю пашану да гаспадыні.

Коля прынёс у спальню крэсла, і госця прысела, падабраўшы пад яго ногі ў тых модных панчохах, паставіўшы на калені чорную лакіраваную сумачку.

«Цікава, чаго яна прыйшла?» — гадала Вера.

А Таіса Рыгораўна завохкала:
І што ж гэта вы захварэлі, ай-яй-яй... Хіба прастудзіліся? Пагода, праўда, цяпер... Але не трэба хварэць, нельга хварэць, трэба падымацца.

— Ды ўжо ж, — не ведала, што адказаць ёй Вера. — Хвароба — не радасць. — А сама зноў думала: «Які ж гэта клопат цябе прывёў?»

Таіса Рыгораўна, аднак, і не збіралася таіць — чаго прыйшла ў гэту хату, хутка і раскрыла свае карты.

— Трэба вам тэрмінова ачуньваць, Вера Іванаўна, бо прыйшла я да вас з вялікаю просьбаю. Справа дзяржаўная... Вы ж ведаеце, скора выбары... І балаціруецца Ігар Адамавіч, наш першы сакратар... Трэба, каб вы напісалі артыкул у яго падтрымку.

Здаецца, першы раз у жыцці ўзрадавалася Вера, што захварэла. Ёсць уважлівая прычына адмовіцца.

— Але ж, бачыце, — ледзь не радасна ўсміхнулася яна. — Хварэю...

— Ну, трэба спадзявацца, што вы хутка ачуняеце... І потым...

— З нашымі аптэкамі можна і доўга хварэць, — перабіў яе Коля, які стаяў тут жа, у спальні, і чуў іхнюю гаворку. — Аббегаў учора ўсе тры аптэкі — няма лякарства, кажуць, дэфіцыт.

— Праўда? — павярнулася да яго Таіса Рыгораўна. У яе голасе было такое здзіўленне, быццам ёй сказалі, што ў цэнтры горада прызямліўся іншапланецянін. — Пакажыце мне рэцэпт, пакажыце, — ледзь не загадала яна.

— Ды што там, — махнула рукою Вера.

Але Коля схадзіў у другі пакой, прынёс рэцэпт, падаў Таісе Рыгораўне. Тая, не паглядзеўшы, не разгарнуўшы, сунула яго ў сваю сумачку.

— Я паспрабую дастаць...

— Ды што там, — зноў махнула рукою Вера. — І потым, чаму іменна я павінна пісаць пра Ігара Адамавіча?

— Ну, разумееце, — твар Таісы Рыгораўны праменіў ласку, дабрыню, якіх ніколі не бачыла на ім Вера. — Вы ў нас усё-такі вядомая журналістка, вас друкуюць сталічныя газеты, часопісы, вас ведаюць як прынцыповага чалавека, ваш голас быў бы важкі... А наш сакратар... у яго вельмі харошая праграма... І наконт жылля, і наконт экалогіі, і дзіцячыя садзікі, хоча новую бальніцу пабудаваць і, ведаеце, абяцае вывучыць беларускую мову!

— А ён што, кітаец на нацыянальнасці? — не вытрывала Вера.

— Не, — усміхнулася, як дасціпнаму Верынаму жарту, Таіса Рыгораўна. — Ён, вядома, беларус, але ж ведаеце, як у нас з мовою...

Вера ведала, як у раёне з моваю. Пачуць яе можна хіба на базары ды на ўскраінах горада. Тры школы ў горадзе, і ўсе рускія. У райкоме слова роднага не пачуеш, усе мерапрыемствы — толькі на рускай мове. Ды каб жа хоць на рускай, а то бог ведае на якой — на трасянцы з рускай і беларускай, слухаць сорамна.

— Так што я вас вельмі прашу... Адужвайце хваробу, — зноў ласкава,

Колькі раз без каліва
Літасці і жаласці
Тымі, хто зварынаю
Лютасцю аброс,
Па усёй краіне
Цэны паніжаліся
На людскія беды,
На жыццё і лёс.

Каб тыранаў звалі
Не сынамі — татамі,
Той узводзіў крэпасці,
Гэты вось — ГУЛАГ.
Ну а вучань верны
Рваўся у дыктатары
З шклянкай паглыбелаю,
Ёмістай, бы гляк.

Можа, выпадковасць?
Не, удасканальванне!
Бо раней не ў шклянкі,—
Ў скальпы-чарапы
Тых людзей, што недзе
Ў лагеры сканалі,
На прыёме ўрадавым
Налівалі: пі!

А прэм'ер, ён ведае
З пешчанай элітаю,
Што людзей выхоўвала
Страхам дзень за днём,
Чырванню якою
Да краёў наліта
Шклянка малянкоўская
З паглыбелым дном.

З тапаром шчарбатым
Гарады аблазілі
З прагай ненасытнаю
Крумкачоў-крукоў
Сталінцы адданыя,
Езуіты-блазны,
Лазар Кагановіч,
Жданаў, Малянкоў.

Наша дэмакратыя,
Хоць, маўляў, і з кратамі,
Лепей ад замежнае,
Можа, ў сто разоў.
Шчырых і сумленных
Век яна не кратала.
Толькі дзеля ворагаў
І была гразой.

Вось ужо і карткі
Назаўжды адменены,
З-за якіх не спалі
Гэтулькі начэй.
І ў дадатак шклянка
Новая, адменная!
Што там валаводзіцца?
Налівай хутчэй!

Ганьба узурпатарам
З Чылі, з Парагваямі!
Не, не прамяняем мы
Лён на іх нейлон!
Вып'ем з малянкоўскае
Дымнай, парай гнанае,
Вып'ем за Радзіму
Ды ізноў нальём!

Танцы да упаду!
Танцы ў нас не бальныя.
А чаму гармонік
Не пяе — гірчыць?
І ад той, гаркотнае,
Што слязой разбаўлена,
На душы не соладка,
Больш яшчэ гарчыць.

Што ж, і плёў і ладзіў
Усё-ткі нездарма ён
Для народа ўласнага
Хітрае сіло.
Доўга гора з радасцю
Напалам з дурманам
Будуць мераць шклянкаю
Горад і сяло...

У хвіліны раннія
І ў часы вячэрнія
На вяку, што коціцца
Скрозь стальным катком,
Чым была ты, шклянка,
Сном, абмарачэннем,
Шклянка малянкоўская
З круглым абадком?



ДАЧУШКА. Фотаэцюд В. ЛАБКО.

нават лісліва папрасіла Таіса Рыгораўна.

— Не ведаю, не ведаю, бачыце ж — у ложку.

Таіса Рыгораўна пайшла, пажадаўшы хутчэй ачуняць, паабяцаўшы ўзяць здароўе журналісткі пад уласны кантроль. Муж праводзіў нечаканую госцю, зачыніў за ёю дзверы, вярнуўся ў спальню.

— Бач, спатрэбілася, — з нейкім зларадствам сказала Вера. — А колькі разоў той Ігар Адамавіч выклікаў, ківаў на мяне пальчыкам — не таго крытыкую, не таго хвалю... А цяпер, аказваецца...

— Ат, — махнуў рукою Коля. — Не бяры да галавы. Ачуньвай. Бачыла ж парламентарка — хворая ты.

— А як ты думаеш, сама яна прыйшла ці сакратар прыслаў?

— От гэтага табе ўжо не магу сказаць. Можа, і дамовіліся... А можа — сама... Але наўрад сама. У нас сам па сабе ніхто нічога не робіць...

Што праўда, то праўда, у раёне ніхто не быў сам сабе гаспадар, усім і ўсімі кіраваў першы — і калгасамі-саўгасамі, і судом, і газетаю. Цяпер перабудова, патрабуюць ад гаспадарнікаў ініцыятывы, ганяць тэлефоннае права, але да іх раёна перабудова і блізка не падступіла, як было дзесяць гадоў назад, так і засталося. Не, не будзе яна агітаваць за сакратара. Ды, можа, больш і прасіць не будуць.

Але Вера памылілася.

Назаўтра з самай раніцы ў дзверы зноў пазванілі і зноў заявілася Таіса Рыгораўна, зноў увайшла ў спальню ў адных панчохах — чорных з узорамі.

— Дастала я вам лякарства! — радасна аб'явіла яна, вымаючы з поліэтыленавай торбачкі пакецік і падаючы яго Веры. Тая ўзяла, пакруціла ў руках. Вытворчасць Венгрыі, імпарт. У пакеціку ляжалі дзве бліскучыя пласцінкі з уваткнутымі ў іх таблеткамі.

— Цікава, дзе вы дасталі? — дзівіўся Коля. — Я ўчора ўсе аптэкі...

— Дзе дастала — усё роўна, — жыва павярнулася да яго Таіса Рыгораўна. — Ачуньвайце вось, — гэта ўжо да Веры. Яна зноў палезла ў тую торбачку, выняла адтуль празрысты мяшэчак, у якім ляжалі буйныя жоўтыя яйкі. — Гэта ўчора мая мама да мяне прыехала, яек прывезла, ад сваіх курачак... У магазіне ж цяпер усякія могуць быць, нават з гэтым, сальманелёзам... А тут ужо гарант, сырыя можна піць.

— Што вы,—паднялася на падушцы Вера.—Не трэба, навошта! Вам прывезлі, сабе і пакідайце!

— І не думайце адмаўляцца! Вам свежыя яйкі пойдуць на карысць! Папраўляйцеся!

І зноў завяла:

— Вы, пакуль лежыцё, падумайце, планік накідайце... Сапернічае з Ігарам Адамавічам малады хлопец, вайсковец, прапаршчык, ну што ён зможа зрабіць для раёна? А ў Ігара Адамавіча вельмі харошая, вельмі важная праграма, — і яна зноў пачала пералічаць: і жыллё, і экалогія, і бальніца, і дзіцячыя садзікі, і беларуская мова...

У Веры аж сківіцы зводзіла ад нейкай крыўды, злосці. Яна ведала, што ўсе гэтыя праграмы праграмамі і застануцца, бо калі сакратар мог і раней будаваць ды не будаваў таго ж жылля, садзікаў, бальніцы, то гэта злачынства, а калі не было сродкаў на такое будаўніцтва, то адкуль яны цяпер возьмуцца? Яе наогул дзівілі праграмы некаторых кандыдатаў — абяцалі сваім выбаршчыкам рай зямны, дзе яны яго возьмуць?

Таіса Рыгораўна пайшла, паабяцаўшы заўтра зноў адведаць.

— Ты скажы, усё ў іх ёсць, — абуралася Вера. — Лякарства дэфіцытнае ёсць... А яйкі... Думаеш, маці прывезла? Ды райкому калгас «Свет камунізму» спецыяльныя прадукты пастаўляе!

— Пі лякарства, папраўляйся, — суцішаў яе муж. Ён прынёс у шклянцы вады, Вера выціснула з бліскучай пласцінкі таблетку.

— Але слухай, яны ж ад мяне не адчэпяцца... І ўжо неяк няёмка... Такая ўвага... Лекі, яйкі...

Муж нічога не адказаў.

Назаўтра Вера адчула сябе лепей. Ці лекі памаглі, ці хвароба сама адступаць пачала. Абвязаўшы горла хусткаю, яна ўжо совалася па хаце, паснедала не ў ложку, а на кухні, за сталом. Можа, і зусім палепшаў бы настрой, каб не турбота. Надта не хацелася пісаць артыкул у падтрымку сакратара, але ўжо адчувала, што нечым быдта абавязаная. І яшчэ — адмовіцца, значыць, уступіць у канфрантацыю з райкомам... Выберуць сакратара ці не выберуць, а гаспадаром ён застанецца, а ёй тут жыць, колькі Богам наканавана. Гнеў абрушыцца не толькі на яе, а і на Колю... Хоць, здаецца, і непадуладны райкому, настаўнік у школе, але знойдуць, да чаго прычапіцца.

Назаўтра госця зноў аб'явілася, зноў з поліэтыленаваю торбачкаю, якая на вока здалася Веры цяжкаватаю.

— О, ды вы ўжо на нагах! — узрадавалася Таіса Рыгораўна. — Яшчэ крышку бледнаватая, але нічога. Я вам падмацунак прынесла! — і яна пачала вымаць з торбачкі: бляшанку чырвонай ікры, бляшанку крабаў, загорнуты ў тлустую паперу добры кавалак балыковай кілбасы, у празрыстым пакеціку цукеркі, якіх Вера даўным-даўно не толькі не каштавала, але і не бачыла — «Мішка касалапы»!

— Не, не, не! — замахала рукамі Вера. — Гэта ўжо падобна на хабар, не вазьму, аніяк не вазьму!

— Што вы, які хабар! — вочы ў Таісы Рыгораўны пакруглелі. — Я іду да хворага чалавека, хворым заўсёды носяць... Перадачы ў бальніцу... І я прынесла!

— Добрая перадача, рублёў на сорак! Ды такі дэфіцыт!.. І Вера пачала складаць усё назад у торбачку.

Таіса Рыгораўна схапіла яе за рукі, нейкі час яны нібы барукаліся, але Вера перамагла, склала ўсё назад у торбачку.

— Ну, як хочаце, — пагадзілася Таіса Рыгораўна. — Але дарэмна, я ад чыстага сэрца... Не таму, што там артыкул прашу... Проста, вы — наш гонар, мы ганарымся, што ў нашым раёне жыве такая вядомая журналістка... І раптам захварэла... Чалавеку трэба памагаць, я ад чыстай душы.

Па Верыным сэрцы зноў шкрабанула. Божа мой, колькі разоў гэта вядомая журналістка хварэла, і ніколі ніхто... А тут раптам такая ўвага.

У гэты час пад вокнамі зноў забрахалі сабакі, пачуліся знаёмыя ўжо Веры галасы — злосны і звяглівы, грубы, які гаўкаў, нібы ў бочку, лісліва, што хацеў, здаецца, некаму дагадзіць, так і бачыла, як круціў ён хвастом, падхалімнічаў.

Госця здзіўлена азірнулася на вакно.

— Што гэта ў вас за сабачае вяселле?

— От такое вяселле, — развяла рукамі Вера. — Кожны дзень весялімся... Збяруцца пад вокнамі нашы новыя паны са сваімі сабачкамі...

— І вы не можаце адправадзіць іх ад вокнаў?

— Не слухаюцца... Колькі ні прасіла, каб не збіраліся каля дома.

Таіса Рыгораўна раптам паднялася, спешна нацягнула ў калідоры свае боцікі, Вера чула, як упэўнена затупалі яе абцасы па лесвіцы. Са здзіўленнем глянула на мужа.

— Куды гэта яна?

Той пацісну́ў плячыма.

Яны стаялі, прыслухоўваліся да таго, што рабілася ў двары. Далятаў голас Таісы Рыгораўны, толькі нельга было разабраць, што яна гаварыла. Але аддаляўся, сціхаў сабачы брэх, а хутка і зусім сціх.

Таіса Рыгораўна вярнулася ў кватэру ўзбуджаная.

— Больш сабак пад вашымі вокнамі не будзе! — урачыста аб'явіла яна. — А калі што — звaніце мне, навядзём парадак!

— Дзякуй вам... — Вера сапраўды была ўдзячна гэтай жанчыне, колькі папакутавала ад тых сабак, можа, і праўда будзе ціха? Але не пакідала душы і няёмкасць, здаецца, яна больш і больш трапляла ў залежнасць, усё больш і больш зацягвала яе нейкая раска.

Калі госця адыходзіла, Вера прасачыла, каб тая ўзяла сваю торбачку. І Таіса Рыгораўна ўзяла. Муж праводзіў яе да дзвярэй, дапамагаў апранацца.

— Усё яны могуць! — у нейкім адчаі гаварыла Вера. — Нават суцішыць сабак! А ты ўсё — «няёмка, няёмка»... І ўсё ў іх ёсць! Не толькі дэфіцытнае лякарства, але і крабы, і ікра, і «Мішка касалапы»! А яшчэ кажуць, што няма ў іх прывілей, божацца, хрысцяцца, што няма прывілей! Добра, што не ўзяла я той падачкі!

Але калі праз нейкі час Вера выйшла ў прыхожую, убачыла на століку каля люстэрка той самы пакет. Зірнула ў яго — тыя самыя бляшанкі, цукеркі.

— Ты што, ты што! — накінулася яна на мужа. — Навошта дазволіў пакінуць!

— Дзе, чаго ты? — не разумеў той.

— Во, во! — тыкала яму Вера пакет з дэфіцытам.

— Ай-яй-яй, дзівіўся той. — Я і не заўважыў, як яна пакінула...

— Не заўважыў, што ж цяпер рабіць?! Выходзіць, мы прынялі! — не магла суняцца Вера.

— Па тым, як ты крычыш, я бачу, што ты ўжо ачуняла, — абараняўся муж. — І такой бяды... Прынесла табе «перадачу», то і няхай...

— Не хачу я, не хачу! — стагнала Вера. — Бяры гэтую торбу і нясі ў райком, каб я здаровая была, сама панесла б, прашу цябе, занясі!

Муж стаяў вінаваты.

— Няёмка...

— «Няёмка»!.. Табе ўсё «няёмка», — скубла яго Вера. — Можа, і бачыў, як пакінула, ды не прымусіў забраць, бо «няёмка», — вінавацiла яна мужа, хоць і разумела, што вінаваціць несправядліва.

Яна сварылася на мужа, але сварылася ўжо стомлена, абыякава, бо і сама разумела — калі занесці гэты пакет у райком, то такі яе дэмарш хутка стане вядомы ўсяму гораду... І навек пасварыцца з начальствам. Такога не даруюць. І, як ні круці, а прыйдзецца пісаць, нідзе не дзенешся... Не хопіць сілы стаць напярок... Не хопіць сілы...

традыцый, у прыватнасці ў выяўленчым мастацтве, харэаграфіі, музыцы. Частка моладзі, да прыкладу, празмерна захапляецца рок-музыкай, ствараюцца самадзейныя ансамблі, якія актыўна распаўсюджваюць рок у яго крайніх мадыфікацыях.

Безабароннасць часткі моладзі перад уплывам культурна - ідэалагічнай экспансіяй, якая нясе ў сабе разбурэнне народнай асновы музыкі, эстэтычных каштоўнасцей, звязана, часцей за ўсё, з нізкай музычнай адукацыяй, недастатковасцю намаганняў па эстэтычнаму выхаванню падлеткаў, з адсутнасцю ў іх той імуннай абароны, якую забяспечвае веданне народнага мастацтва, яго крынічнай чысціні.

Для адраджэння духоўнай культуры прапануецца ажыццявіць наступныя захады.

### У ГАЛІНЕ ФАЛЬКЛОРУ

Мэтазгодна мець у рэспубліцы на базе Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР Рэспубліканскі міжведамасны каардынацыйны савет фальклору. Даручыць яму да 1990 года распрацаваць комплексны план навукова - даследчай работы ў галіне народнай творчасці і наладзіць кантроль за яго выкананнем.

Да 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны стварыць у 1990 г. нацыянальны навукова і культурна - асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны, які ўзначаліць работу па скарыназнаўству і славяназнаўству, вывучэнню гісторыі беларускай культуры.

На базе мемарыяльнага комплексу па вул. Казінца ў г. Мінску «Белая дача» і яго парку, помніка дойлідства XIX ст., стварыць у 1990 г. Цэнтр фальклору і народных рамёстваў Рэспубліканскага навукова - метадычнага цэнтра культуры. Такія рэгіянальныя цэнтры стварыць у вёсках Моталь і Огава Брэсцкай вобласці, в. Залессе Гродзенскай вобласці, в. Неглюбка Гомельскай вобласці, у Івянцы Мінскай вобласці, у Браславе, Гарадку і Глыбокім Віцебскай вобласці.

Да 1995 года Беларускаму аддзяленню фонду культуры і Мінгарвыканкому стварыць у Мінску на базе Лошыцкага садова - паркавага комплексу Рэспубліканскі цэнтр народных рамёстваў вытворчай і навукова-метадычнай накіраванасці.

З улікам нарастаючага інтарэсу і попыту на здабыткі беларускага фальклору Міністэрству культуры БССР і Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР стварыць адзіную сістэму ідэнтыфікацыі і рэгістрацыі фальклору, распрацаваць методыку рэспубліканскага банка твораў фальклору.

Стварыць «Таварыства народных майстроў».

Прывесці ў сістэму традыцыйныя штогадовыя выстаўкі рамёстваў, кірмашоў з продажам вырабаў, удакладніць тэрміны і месцы іх правядзення.

РНМЦ Міністэрства культуры БССР і Дзяржкамвыду БССР падрыхтаваць выданне календара народных свят і абрадаў не пазней 1990 года.

З мэтай больш шырокага вывучэння і прапаганды фальклору, узбагачэння рэпертуару самадзейных калектываў наладзіць выпуск зборнікаў фальклорных твораў, дакументальных, тэлевізійных, відэафільмаў, грампласцінак, буклетаў.

Стварыць кіна-, фотаслайдатэкі жывых носьбітаў фальклору.

У газетах і часопісах, па радыё і тэлебачанні актыўна прапагандаваць традыцыі кулінарнага майстэрства і народнай медыцыны, адкрыць тэматычныя экспазіцыі ў этнаграфічных, краязнаўчых музеях.

Па прыкладу лабараторыі народнай харэаграфіі Мінскага інстытута культуры, якая дзейнічае больш за восем гадоў, стварыць лабараторыі і майстэрні народнага касцюма (Міністэрства мясцовай прамысловасці), народных інструментаў (Музычнае таварыства БССР).

Вызначыць у якасці асноўных накірункаў навуковых даследаванняў народнай творчасці на перыяд 1990—1995 гг. наступныя тэмы:

«Фальклор, яго месца і роля як жывой спадчыны ў культурным жыцці рэспублікі»;

«Народныя традыцыі ў культуры, сямейным і грамадскім побыце працоўных Беларусі»;

«Узаемадзеянне і ўзаемаўплыў традыцыйнай народнай творчасці і прафесійнага мастацтва і літаратуры»;

«Помнікі культуры і іх роля ў эстэтычна - мастацкім выхаванні савецкіх людзей»;

«Этнічныя своеасаблівасці нацыянальнай культуры Беларусі»;

«Звычаі, традыцыі і пераемнасць пакаленняў»;

«Традыцыі рамёснай творчасці беларусаў»;

«Народныя традыцыі сямейнага выхавання»;

«Традыцыйная этыка сямейных узаемаадносін у асяроддзі гарадскога і сельскага насельніцтва»;

«Традыцыйная сімволіка ў народных святах і абрадах».

Дзяржкамвыду БССР прадугледзець уключэнне ў планы выдавецтваў лепшых навуковых прац па фальклорнай тэматыцы.

### У ГАЛІНЕ МУЗЫКІ І ХАРЭАГРАФІІ

Для таго, каб музычная спадчына больш глыбока і вынікова ўплывала на эстэтычнае выхаванне ўсіх катэгорый насельніцтва рэспублікі, фарміравала ў людзей эстэтычныя густы і патрэбы, важна аб'ядноўваць намаганні Саюза кампазітараў, Музычнага таварыства БССР, Белдзяржкансерваторыі, Белдзяржфілармоніі, тэлебачання і радыёвяшчання, музычных тэатраў.

У культурнае жыццё рэспублікі ўвесці штогадовыя фестывалі народнай і старажытнай музыкі з удзелам усіх канцэртных устаноў. У межах фестывалю праводзіць навукова-тэматычныя семінары - сімпозіумы (Мінстэрства культуры БССР, Саюз кампазітараў БССР, Музычнае таварыства БССР). У праграму такіх фестываляў уключаць «Глас Ефрасінні Полацкай», канты Афанасія Філіповіча і іншыя старажытныя і народныя творы. У межах фестывалю наладжваць харавыя і інструментальныя канцэрты, выступленні маладых выканаўцаў, прэм'ерныя канцэрты - адкрыцці. Вызначыць спецыяльныя прэміі за лепшую навукова - пошукавую і канцэртна - асветніцкую работу.

Стварыць на Беларускім тэлебачанні і радыё з удзелам Саюза кампазітараў БССР і Музычнага таварыства цыклы «Музычныя помнікі Беларусі», увесці адпаведныя пастаянныя рубрыкі ў рэспубліканскім друку. Дзяржтэлерадыё БССР трэба было б прадумаць шляхі рэалізацыі праграмы «Залаты фонд (скарбонка)» для масавай прапаганды музычных помнікаў Беларусі. Саюзу кампазітараў і Музычнаму таварыству варта падрыхтаваць праз фірму «Мелодия» серыю дыскаў «Музычная спадчына Беларусі». Стварыць у Мінску ў межах культурнага комплексу «Траецкае прадмесце» Тэатр народнай музыкі.

Аднавіць традыцыю правядзення канцэртаў у вядомых гісторыка - архітэктурных комплексах (плошча Свабоды ў Мінску, у гарадах Слоніме, Гродне, Полацку). Адрадзіць ландшафтныя тэатры палацавага тыпу ў Нясвіжы і Залессі.

Музычнаму таварыству БССР і РНМЦ Міністэрства культуры БССР распрацаваць сістэму правядзення традыцыйных фестываляў і свят «Звіняць цымбалы» дзіцячай харавой музыкі, духавой музыкі, народнай харэаграфіі і інш. Да 1995 года сіламі спецыялізаванай лабараторыі Мінскага інстытута культуры завяршыць вывучэнне, падрыхтоўку і выданне ў выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» даследавання «Танцавальная культура Беларусі».

Зрабіць традыцыйнымі фестывалі сімфанічнай музыкі ў Слоніме, а таксама свята балета і фестываль класічнай і старажытнай музыкі ў Нясвіжы.

### У ГАЛІНЕ ТЭАТРАЛЬНАГА МАСТАЦТВА

Асноўныя накірункі перабудовы тэатральнай справы ў рэспубліцы вызначаны Міністэрствам культуры БССР і пленумам Саюза тэатральных дзеячаў БССР у Праграме развіцця тэатральнай культуры ў Беларусі. Сярод іншых праблем праграма вылучае ўвядзенне ў рэпертуар прафесійных мастацкіх калектываў лепшых твораў старажытнага беларускага мастацтва.

Узнавіць самабытныя народна - тэатральныя традыцыі батлейкі, народнай драмы, музычна - тэатралізаваныя прадстаўленні, фальклорныя оперы, заснаваныя на песенна-харэаграфічным матэрыяле.

Зрабіць традыцыйнымі фестывалі драматычных і лялечных тэатраў рэспублікі ў г. Гродне. Стварыць у рускамоўных тэатрах акцёрскія трупы, якія б працавалі на беларускай мове і ў перспектыве маглі б стаць самастойнымі тэатральнымі калектывамі. Ствараць гасразліковыя тэатры-студыі, у тым ліку ў Баранавічах, Лідзе, Пінску, Рэчыцы, Маладзечне, Рагачове, садзейнічаць арганізацыі эксперыментальных тэатральных лабараторый. Стварыць тэатры лялек у Мазыры, Маладзечне, Лідзе на базе палацаў культуры.

Саюзу тэатральных дзеячаў БССР мець нацыянальны цэнтр сцэнічнага мастацтва, галоўнай задачай якога стане зберажэнне і ўзбагачэнне традыцый беларускай нацыянальнай тэатральнай культуры. Міністэрству культуры БССР разам з Брэсцкім і Гродзенскім аблвыканкомамі ў 1990—1991 гг. вывучыць магчымасці рэстаўрацыі Ружанскага тэатра XVIII стагоддзя і Гродзенскага тэатра XVIII стагоддзя, які з'яўляўся ў свой час адным з буйнейшых цэнтраў балетнага мастацтва на захадзе Расіі. Адрадзіць у межах Верхняга горада Мінскі гарадскі тэатр, што быў узведзены ў пачатку XVIII стагоддзя, і Мінскі ратушны тэатр, якія былі звязаны з імёнамі выдатных дзеячаў рускага, беларускага і польскага мастацтва. Прывесці ў належны парадак Слонімскую канцэртную залу, дзе выступаў сімфанічны аркестр М. К. Агінскага.

### У ГАЛІНЕ ПОМНІКАЎ ПІСЬМЕНСТВА

Для кардынацыі работы над помнікамі пісьменства, згодна з рашэннямі ЦК КПБ, у АН БССР стварыць рэспубліканскую археаграфічную камісію. У бібліятэках сфарміраваць фонд кніжных помнікаў перш за ўсё на падставе выдзялення старадрукаў з асноўных фондаў. У 1990 годзе пачаць пашпартызацыю фондаў кніжных помнікаў гісторыі і культуры (незалежна ад месца іх захавання). Арганізуе гэту работу Дзяржаўная бібліятэка БССР.

Міністэрству культуры БССР і Міністэрству фінансаў БССР прадугледжваць мэтанакіраванае выдзяленне сродкаў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна для набыцця рэдкіх і каштоўных выданняў у лаўках букіністаў і на аўкцыёнах. Арганізаваць у бібліятэцы ахоўнае капіраванне рукапісных матэрыялаў і рэдкіх кніг для стварэння страхавога фонду, а таксама сучаснае капіраванне, што дазволіць стварыць спрыяльныя ўмовы для знаёмства з гэтымі матэрыяламі большай колькасці даследчыкаў.

Арганізаваць улік асабістых калекцый, у якіх ёсць рэдкія і каштоўныя кнігі (асабліва выдадзеныя ў Беларусі), далучаць гэтыя калекцыі да выстаў і факсімільных выданняў. Стварыць у рэспубліцы друкаваныя сводныя каталогі і каталогі асобных калекцый. Выдаць даведнік «Фонды рэдкіх і каштоўных выданняў у бібліятэках, музеях, архівах БССР».

У 1990 годзе Дзяржбібліятэцы БССР сумесна з Галоўным архіўным упраўленнем і аб'яднаннем «Белрэстаўрацыя» распрацаваць прапановы аб стварэнні ў рэспубліцы міжведамаснага цэнтра кансервацыі і рэстаўрацыі дакументаў, якія захоўваюцца бібліятэкамі, музеямі і архівамі; Міністэрству культуры БССР вырашыць пытанні падрыхтоўкі кадраў рэстаўратараў кніжных фондаў.

Распрацаваць поўную і дакладную праграму выпуску ў 1990—2000 гг. факсімальных выданняў помнікаў кніжнай культуры Беларусі (такіх, напрыклад, як Сымон Будны «Катэхізіс», летапісныя своды, старадрукі з паралельным беларускім тэкстам, усе выданні Ф. Скарыны, выданні М. Гусоўскага, С. Полацкага, Ф. Багушэвіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, В. Цяпінскага, Л. і Э. Зізаніяў, Я. Вісліцкага, Я. Чачота, І. Насовіча, А. Гурыновіча, У. Сыракомлі і іншых дарэвалюцыйных паэтаў і пісьменнікаў; альбомаў «Слуцкія паясы», «Гравюры з відамі беларускіх гарадоў» сяр. вякі — XIX ст., «Гравюры беларускіх старадрукаў», «Старыя беларускія карты» і г. д.; а таксама працы вучоных-гісторыкаў М. Доўнара-Запольскага, В. Пічэты, М. Любаўскага і інш.)

### У ГАЛІНЕ ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА

У распрацоўцы гэтай часткі нацыянальнай спадчыны сустракаюцца найбольшыя складанасці. У музеях рэспублікі практычна не захаваліся старажытныя творы; да рэвалюцыі яны, як правіла, вывозіліся з рэспублікі і апынуліся ў музеях Вільнюса, Масквы, Ленінграда і іншых гарадоў, у тым ліку і ў замежных мецэнатаў.

Вялікую каштоўнасць маюць творы народных мастакоў, якія дайшлі да нас у прыватнасці ва ўзорах насценнага роспісу, у іканапісе. Неабходна наладзіць у музеях, дзе гэта магчыма, рэгулярныя выставы старажытнага выяўленчага мастацтва, у тым ліку перасоўныя. Трэба ўзбагаціць экскурсаводаў прафесійнымі ведамі, каб яны маглі даводзіць да наведвальнікаў высокі эстэтычны сэнс таленавітых твораў мінулага. Пры гэтым вельмі важна ўмець адрозніваць сапраўдныя каштоўнасці ад падробак, якія нярэдка выдаюцца за старажытныя мастацкія вырабы.

Саюзу мастакоў, Дзяржкамвыду, АН БССР наладзіць выданне альбомаў, буклетаў, рэпрадукцый твораў беларускай спадчыны, якія знаходзяцца па-за межамі рэспублікі.

Саюзу мастакоў БССР, РНМЦ Міністэрства культуры БССР, АН БССР правесці ў 1990 годзе ў межах праграмы «Скарыніяна» навукова - практычную канферэнцыю «Вытокі і традыцыі беларускага выяўленчага мастацтва».

## IV. СПАДЧЫНА НАЛЕЖЫЦЬ СУЧАСНІКАМ

**Першапачатковая мэта патрыятычнага выхавання — вяртанне пачуцця нацыянальнай годнасці. Для гэтага неабходна шырокая прапаганда каштоўнасці ўкладу беларускага народа ў развіццё культуры і сацыяльны прагрэс народаў СССР, славянскіх народаў Еўропы і свету, стварэнне пантэона нацыянальных герояў, папулярызацыя іх дзейнасці сродкамі масавай інфармацыі, у творах мастацтва (трэба адзначыць, што ў гэтым напрамку шмат што ўжо робіцца).**

**Разам з тым важна тэрмінова ўнесці карэнныя змены ў праграмы навучання ў школах, дашкольных і вышэйшых установах і інш. Поруч з пераводам выкладання на беларускую мову неабходна ўвесці асобныя курсы гісторыі, гісторыі культуры, геаграфіі Беларусі. Забяспечыць засваенне культурнай спадчыны ў курсах працоўнага (народныя рамёствы), эстэтычнага (народная музыка, дэкаратыўна - прыкладное мастацтва) і фізічнага (народныя гульні), выхавання ў школах і дашкольных установах.**

**Для гэтага неабходна:**

**— перапрацаваць праграмы па гісторыі Беларусі і беларускай літаратуры, пашырыць вывучэнне фальклору, прадугледзець фальклорную практыку ў школах, увесці вывучэнне спадчыны славутых землякоў,**

**— забяспечыць практычнае засваенне асноў народнага мастацтва ў курсах мастацкага і працоўнага выхавання;**

**— увесці курс гісторыі і беларускай культуры ў школах;**

**— Міністэрству народнай адукацыі БССР і Міністэрству культуры БССР увесці ў праграмы вышэйшых навучальных устаноў культуры, філалагічных факультэтаў універсітэтаў і педагагічных ВНУ, музычных, педагагічных і культурна-асветных вучылішчаў рэспублікі курс «Фальклор і этнаграфія Беларусі».**

**Міністэрству народнай адукацыі, Дзяржкамвыду БССР падрыхтаваць вучэбныя дапаможнікі і хрэстаматыі па фальклору і этнаграфіі Беларусі для дашкольных устаноў, сярэдніх, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.**

**Адкрыць музычна - педагагічны факультэт у Белдзяржкансерваторыі імя Луначарскага, а ў сярэдніх і другіх вышэйшых навучальных установах аддзяленні па падрыхтоўцы акампаніятараў і музычных кіраўнікоў самадзейнасці;**

**у Мазырскім і Брэсцкім педагагічных інстытутах — аддзяленні па падрыхтоўцы настаўнікаў танцаў для школ;**

**у Белдзяржкансерваторыі ўвесці спецыялізацыю (адкрыць аддзяленне) па падрыхтоўцы кіраўнікоў хораў з народнай манерай спеваў;**

**на аркестравых аддзяленнях Белдзяржкансерваторыі, Мінскага інстытута культуры, музычных вучылішчаў і культурна-асветных вучылішчаў увесці навучанне ігры на басэтлі, ліры, жалейцы, гудку і іншых народных інструментах;**

**пры падрыхтоўцы кадраў вышэйшай кваліфікацыі ў галіне культуры праз аспірантуру прыярытэтнымі лічыць навуковыя распрацоўкі па праблемах народнай культуры;**

**рэарганізаваць Магілёўскае культасветвучылішча ў філіял Мінскага інстытута культуры;**

**пашырыць сетку дзіцячых музычных школ і дзіцячых школ мастацтва. Пабудаваць і ўвесці ў дзеянне да 1995 года дадаткова да існуючых 71 дзіцячую музычную школу і дзіцячую школу мастацтваў, у тым ліку ў Брэсцкай вобласці — 12, Віцебскай — 7, Гомельскай — 16, Гродзенскай — 7, Мінскай — 10, Магілёўскай — 11, у г. Мінску — 8.**

**Прадугледзець у вучэбных планах школ курс народнай творчасці. Заахвочваць навучэнцаў да ўдзелу ў святах і фестывалях народнай і старажытнай беларускай музыкі.**

**Адкрыць 11 дзіцячых харэаграфічных школ, у тым ліку ў Брэсцкай вобласці — 2, Віцебскай — 2, Гомельскай — 2, Гродзенскай — 1, Мінскай — 2, Магілёўскай — 2. Праграму навучання пабудаваць на народным танцы.**

**Наладзіць выпуск у рэспубліцы кніг і дапаможнікаў для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў аб традыцыйных відах беларускага народнага мастацтва з мэтай набыцця дзецьмі навыкаў па размалёўванню выразцы, склейванню сюжэтаў з народных казак і паданняў.**

**Удасканаліць у ВНУ сістэму выхавання прафесійных кадраў у галіне культуры, якая б прадугледжвала:**

**падрыхтоўку высокакваліфікаваных гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, рэстаўратараў і інш., якія займуцца пошукам, зборам, захаваннем і навуковым вывучэннем культурнай спадчыны;**

**Мінскаму інстытуту культуры, ЦК ЛКСМБ, сацыялагічнай службе Міністэрства культуры БССР рэгулярна праводзіць шырокае апытанне насельніцтва для выяўлення яго інтарэсаў і попыту з мэтай уцягнення ў працэс развіцця культуры і прыцягнення да актыўнага ўдзелу ў рэалізацыі праграмы «Спадчына».**

**Міністэрству культуры БССР, Міністэрству народнай адукацыі БССР, Беларускаму аддзяленню Савецкага фонду культуры, Белсаўпрофу, ЦК ЛКСМБ, таварыству «Веды» садзейнічаць развіццю грамадскага руху па стварэнню гісторыка - дакументальных хронік «Памяць» па раёнах Беларусі, а таксама летапісу роднага горада, раёна, вёскі, калектыву. Прадугледзець пастаяннае вядзенне летапісных кніг, унясенне ў іх успамінаў старажылаў, ветэранаў вайны і працы, гісторыкаў аб найбольш важных падзеях у рэгіёнах; выпуск рукапісных школьных краязнаўчых часопісаў і бюлетэняў. Выкарыстоўваць у гэтай справе вопыт, што набыты ў другіх рэспубліках, а таксама ў сацыялістычных краінах, асабліва ў Чэхаславакіі і Балгарыі.**

**Прапановы для распрацоўкі праграмы «Спадчына» зроблены з улікам нацыянальных асаблівасцей і гістарычнага вопыту беларускага народа.**

**У ноч з 13 на 14 мая ў Вільні згарэў дамок Зоські Верас—славутая «лясная хатка».**

**Пажар быў заўважаны толькі тады, калі полымя шуганула высока ўгару і зарыва *стала відно здалёку*.**

**Пакуль былі выкліканы пажарнікі, пакуль яны знайшлі дарогу ў лесе, ратаваць ужо не было чаго...**

# Рэквіем па лясной хатцы

Гаспадары хаткі яшчэ з восені перабраліся ў гарадскую квартэру — далей жыць у лесе не дазволіла слабое здароўе пані Людвікі, як усе называлі Зоську Верас. дый яе дачка, Галіна Антонаўна, усё часцей патрабавала лекарскай дапамогі.

Самае складанае было не перавезці рэчы, а ўгаварыць саму Людвіку Антонаўну, што пражыла ў гэтай хатцы большую частку свайго доўгага жыцця, згадзіцца на пераезд у стандартную бетонную скрынку.

Ды і ўсе мы, хто ведае Зоську Верас, наўрад ці зможам раздзяліць у сваёй свядомасці вобраз гаспадыні і вобраз яе дому.

Праз акно ў яе пакойчык, у якім стаяў водар разнастайных лекавых траў, засушаных пялёсткаў, зазіралі, у залежнасці ад пары года, то зялёныя лісці, то кветкі, то заснежаныя галінкі; прыляталі снегіры, сінічкі — а часам нават прыбягала вавёрка.

(Ледзь не напісаў—«прабягала, бы рыжы агеньчык...»— і зноў, зноў перад вачамі ўзнікла жудаснае відовішча абгарэлых рэшткаў гліняных сцен, галавешкі, смурод і едкі белы дым...).

Хатка нарадзілася ў цяжкія часы, пагэтаму яе сцены і складзены з такога нязвыклага для нашага краю матэрыялу — гліны, перамешанай з драўлянымі галінкамі.

Я невыпадкова напісаў *«нарадзілася»* — хатка гэта сама была як бы жывой істотай, часцінкай жывой, а не мёртвай прыроды.

Мы страцілі не маёмасць, а кавалак жывога жыцця — не жыцця прадметаў, а жыцця душы.

І слова «мы» я напісаў невыпадкова, бо якраз і мы з сяброўкай майго жыцця Хрысцінай мелі шчасце некалькі месяцаў пражыць у гэтай хатцы.

Каб не пакідаць апусцелую хатку зусім без нагляду, каб было каму карміць сабаку Джэка, грознага з выгляду, але неверагодна добрага і даверлівага па сваёй натуры, гаспадары папрасілі нас пакарыстацца хаткай, як мастацкай майстэрняй, а калі захочацца, то й жыць там, пакуль будзе вырашаны яе далейшы лёс.

Калі нам трэба было кудысь выязджаць, мы папярэджвалі Лявона Луцкевіча, мужа Галіны Антонаўны, і *тымі днямі ён прыходзіў* сам — карміў Джэка, рамантаваў якую-небудзь дробязь, а начаваць вяртаўся ў сваю гарадскую кватэру, бо дзвюх хворых жанчын пакідаць таксама было нельга.

Так было і напярэдадні той страшнай ночы. Мы вярнуліся з Беларусі, ад майго бацькі, і вечарам засталіся ў сваёй кватэры ў горадзе — да нас меліся прыйсці сябры. А раніцой мы сабраліся ехаць у лясную хатку.

Ды ехаць не было ўжо куды.

Колькі часу *будзе ціснуць сэрца думка: чаму ж нам было не паехаць туды адразу?.. Не пакідаць увогуле яе ніколі!*

Колькі часу мы будзем адчуваць сябе не толькі асірацелымі, але й здраднікамі.

Не трэба быць камісарам Мегрэ, каб высветліць прычыну пажару — захаваліся напаўабгарэлыя кнігі, каля якіх стаяў наш тэлевізар «Электроніка», а самога прыёмніка не стала... Значыць, нехта забраў, што яму спадабалася, а потым вырашыў пацешыць сябе відовішчам пажару.

Дзікуны ва ўсе часы любілі вялікія вогнішчы.

Яны, напэўна, ніколі не будуць знойдзены. Няма ніякіх слядоў, ды не надта хто й будзе шукаць—для чалавека староннягa гэта была ўсяго толькі бедная хаціна, не вартая ані жалю, ані асаблівай увагі.

Неяк раней прыходзіў адзін чалавек з прапановай набыць гэты домік. Гаспадары здзівіліся, што ён пры гэтым нават не зазірнуў у пакоі. У адказ невядомы зарагатаў: навошта, маўляў, мне куча гліны, я на яе месцы адразу новы дом збудую, мяне месца цікавіць, пляц.

Каторы ўжо дзень і каторую ноч шчыміць сэрца і стаіць камяк у горле — і стаіць перад вачамі вобраз тых пакояў, тых сцен...

Гэтыя сцены былі надзелены нейкай таямнічай сілай. Сярод іх бясследна знікалі, выпараліся самыя цяжкія думкі, самы панылы і безнадзейны настрой, які яшчэ нядаўна абцугамі сціскаў галаву.

Як добра і лёгка тут пісалася і малявалася! Які быў лёгкі і спакойны сон *пасля працоўнага дня.* Вечарам чуліся нейкія таямнічыя шолахі, шэлесты, пастукванні — *ці то скрэбліся мышы, ці то бегалі* шматлікія каты, якія на іх палявалі...

Кажуць, калісьці, перш чым пасяліцца ў хаце, туды пускаліката. І калі той адчуваў сябе там добра, значыць, добра будзе жыць і чалавеку.

У лясную хатку апошнім часам немаведама адкуль сабралася ажно сем катоў.

Гэтая хатка аберагала, туліла сваімі цёплымі, мяккімі нават навобмацак, сценамі жыццё і кволае здароўе сваёй гаспадыні, Зоські Верас. Яна была шчаслівая тут, і на яе агеньчык ціхага шчасця так шмат з'язджалася, сыходзілася людзей.

Ці ёсць хоць адзін чалавек, які б пагрэўся каля гэтага агеньчыка і не запомніў яго на ўсё жыццё?

Будынак быў ужо без гаспадыні, але трымаўся пах зёлак у яе пакойчыку. Там стараліся асабліва нічога не перастаўляць, спадзяваліся зрабіць дом-музей. Але як *не стасавалася б* мёртвае слова «музей» да гэтай хаткі!

Гаспадыні не было, але яна штодзённа глядзела на нас з партрэта пэндзля Пётры Сергіевіча. На палатне Зоська Верас сядзела ў крэсле, трымаючы на каленях улюбёнага чорнага ката.

Партрэт таксама згарэў у полымі...

Мы страцілі адну хатку і прыціснуты горам.

Што ж павінны былі адчуваць людзі ў Спітаку? Або людзі, якія мусілі пакідаць роднае жытло, родныя мясціны, родныя краявіды — назаўсёды, без нічога, у чым стаялі, пасля чарнобыльскага выбуху?

Што адчуваў вялікі армянскі жывапісец Мінас Авецісян, у якога згарэла майстэрня з найлепшымі творамі, адабранымі для персанальнай выставы?

Вільня і беларуская гісторыя, Вільня і беларуская культура — тэма-рака, як кажуць палякі. За беларускае права на Вільню апошнім часам выказваюцца нават людзі, нявартыя знаходжання на зямлі Беларусі, а тым больш на зямлі Віленскай, калі ўспомніць няшчасці, якія гэтыя «дзеячы» прынеслі народу беларускаму.

У рэальнасці ж Беларусь і Вільня звязаны цяпер толькі тоненькімі нітачкамі-пупавінамі з тымі месцамі ў цяперашняй літоўскай сталіцы, дзе яшчэ цепліцца, свеціцца, не згасае беларушчына — агеньчык, які з рук Багдановіча прыняла і несла да нас Зоська Верас.

Некалькі нягоднікаў адным махам абарвалі, утапталі ў смуродны попел і гразь адну з такіх нітачак, спляжылі адно з самых дарагіх для беларусаў месцаў у Вільні.

Хаткі няма і не будзе ўжо ніколі. Цудаў не бывае. Адбудоўваць яе справа безнадзейная. Будзе муляж, макет, мёртвая рэч.

Але засталося месца. Не засталося пакойчыка, у якім жыла Зоська Верас, але засталося тое, на што яна глядзела, засталіся тыя расліны, беларускія назвы якіх яна так руплiва збірала і захоўвала ўсё жыццё.

І гэта месца пакуль яшчэ належыць беларусам. Гэта не так мала. Гарадскому чалавеку не трэба тлумачыць, што значыць кавалак зямлі, на якім можна штосьці пабудаваць і які знаходзіцца ў лічаных хвілінах ад цэнтра аднаго з найпрыгажэйшых і ўтульнейшых гарадоў Еўропы.

Сёння беларускія навукоўцы, гісторыкі, мастакі прыязджаюць у Вільню і не маюць месца, дзе прытуліцца. Раней шмат хто знаходзіў прытулак у лясной хатцы. А цяпер?

І з'яўляецца мара: калі нельга адбудаваць хатку, дык адбудаваць бы на гэтым месцы зусім іншы дом. Моцны, такі, каб не было так проста ў яго ўлезці злодзею, а тым больш падпаліць; дом, на гарышчы якога было б дзве-тры майстэрні для мастакоў, якія захацелі б папрацаваць у Вільні колькі тыдняў...

●

Напісаў, перачытаў і падумаў: не, гэтага не будзе ніколі.

Не таму, што немагчыма, што месца глухое, што няма студні і былым гаспадарам даводзілася ўсё жыццё руплiва збіраць і адстойваць дажджавую ваду.

Немагчыма таму, што мы — беларусы, і на нас ляжыць праклящце Бога, накладзенае немаведама за што і калі.

І тое, што пад сілу амаль любому гандляру, які вырошчвае цюльпаны і радысці спекулюе джынсамі і будуе для сваёй сям'і дамы ў два разы большыя чым той, што мне ўявіўся на імгненне, не пад сілу нам усім, нашым клубам, згуртаванням, фондам, франтам, саветам, прэзідыумам...

То бывай жа, Хатка.

Бывай назаўсёды, навечна.

Няхай на тваім месцы вырасце трава, няхай цвітуць лясныя кветкі, няхай віюць гняздзечкі птушкі — патомкі тых птушак, што калісь цешылі вока Зоські Верас.

**Алег АБЛАЖЭЙ.**
г. Вільня.




**З 18 ПА 24 ЧЭРВЕНЯ**

**17 чэрвеня. 12.30**

**ЛІРА**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

Перадача прысвечана Ефрасінні Полацкай.

Бяруць удзел Патрыяршы Экзарх Беларусі Філарэт, *пісьменнікі*, сакратар Жыровіцкай семінарыі айцец Сергій, Мінскі камерны хор.

**22 чэрвеня. 18.30**

**«ДЗВІНА»**

Літаратурна-мастацкі часопіс з Віцебска.

Першы сюжэт прысвечаны 450-годдзю выдатнага беларускага асветніка, пісьменніка і перакладчыка Васіля Цяпінскага.

Наступны—знаёміць з творчасцю фотамастака У. Базана.

Настаўніца 14-й школы г. Віцебска З. Маркава разам са сваімі вучнямі прайшла сцежкамі жыцця і творчасці паэткі Е. Лось. Матэрыялы, якія сабралі пашукоўцы, перададзены ў абласны літаратурны музей.

Аб праблемах існавання беларускага тэатра «Лялька» гавораць галоўны рэжысёр В. Клімчук і кіраўнік літаратурнай часткі С. Дашкевіч.

**23 чэрвеня. 12.30**

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Тэма праграмы—X з'езд Саюза пісьменнікаў БССР. Гледачы пачуюць інтэрв'ю з У. Арловым, В. Дашкевічам, С. Сокалавым-Воюшам, М. Мятліцкім. Адбудуцца гутаркі ў студыі з крытыкамі М. Тычынам і А. Станютам.

**23 чэрвеня. 19.20**

Іграе піяніст Ігар Алоўнікаў.

**24 чэрвеня. 15.40**

**М. ГОРКІ. «ВАСА ЖАЛЯЗНОВА»**

Спектакль выпускнога курса БДТМІ. Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля народны артыст БССР Ю. Сідараў. Мастак—заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Ю. Тур. Спектакль прызнаны лепшым сярод дыпломных студэнцкіх спектакляў у аглядзе-фестывалі ў Кіеве.

**24 чэрвеня. 17.50**

**ЛІРА**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

**24 чэрвеня. 19.25**

**«БАЦЬКАЎШЧЫНА»**

Да 90-годдзя Кузьмы Чорнага.

Удзельнічаюць пісьменнікі М. Тычына, Г. Далідовіч, В. Гігевіч, дырэктар Цімкавіцкага музея К. Чорнага З. Раманенка.

**24 чэрвеня. 22.55**

**СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ**

Інфармацыйна-музычная праграма.




«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**Літаратура і Мастацтва**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АТ 06287 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; *аддзел літаратуры:* Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62.